19 чэрвеня 2015 | № 24 (441)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**У Беларусі існуе дыскрымінацыя недзяржаўных ВНУ**

стар. 4

**5 ЗА КАГО ЯНЫ, ЗА РАСІЮ ЦІ ЗА ЛАТВІЮ?**

На чый бок стануць рускія неграмадзяне Латвіі ў выпадку канфлікту з Расіяй? Ці ёсць адказ на гэта пытанне?



**6 ТРЫ ГАДЫ ПЕНСІЯНЕРЫ ЗМАГАЮЦЦА ЗА ДОМ**

Можна пражыць хоць 10 гадоў на ўласнай зямлі, але гэта не гарантуе, што аднойчы да вас не прыйдуць незнаёмыя людзі і не прад'яўляць прэтэнзіі на ўласнасць

**13 МАЛДОВА: РЭВАНШ НЕ АДБЫЎСЯ**

Мясцовыя выбары ў Малдове ў міжнароднай прэсе разглядаліся як своеасаблівы тэст на праеўрапейскі курс Малдовы. Малдова, здаецца, гэты тэст прайшла

**14 ГЭНІК ЛОЙКА: Я НЕ ХАЦЕЎ, КАБ УСЁ БЫЛО ЦІХА**



Не ведаю, як іншым, а мне ўявіць скульптара Гэніка Лойку без бел-чырвона-белай стужкі на галаве вельмі цяжка, таму адно з першых пытанняў і было: «Навошта?»

# Рускія танкі — хутка ў Беларусі?

## Беларусь можа ператварыцца ў расійскі танкавы палігон



Сяргей ПУЛЬША

Днямі генерал арміі Расійскай Федэрацыі Юрый Якубаў заявіў, што, калі ЗША і NATO вырашаць размясціць свае цяжкія ўзбраенні ў краінах Усходняй Еўропы, то Расія ў адказ узмоцніць свае войскі на заходняй мяжы.

Па ягоных словах, будзе ўзмоцнена групоўка войскаў па ўсім перыметры заходняй мяжы Расіі, уключаючы новыя фармаванні танкавых, артылерыйскіх і авіяцыйных частак. Ракетная брыгада ў Калінінградскай вобласці будзе тэрмінова пераўзбройвацца новымі ракетнымі комплексамі «Іскандэр». І, што больш важна для нас, ён таксама сказаў, што «зведае значныя змены расійская агульнавайсковая групоўка ў Беларусі».

Адначасова расійскі генерал зазначыў, што Расія канчаткова выйшла з Дамовы аб узброеных сілах у Еўропе (ДОВСЕ), і пры арганізацыі «мераў у адказ» не будзе звязаная ніякімі абмежаваннямі, як гэта было раней, па колькасці танкаў, самалётаў, артылерыйскіх сістэм у памежных раёнах.

Нагадаем, што ДОВСЕ быў падпісаны СССР у 1990 годзе. Дамова істотна абмяжоўвала колькасць звычайных узбраенняў, якія могуць змяшчацца на мяжы Усходу і Захаду. Каб весці поўнамаштабную вайну, бліцкрыг, і NATO, і СССР трэба было засяродзіць ля межаў вельмі вялікую колькасць тэхнікі і ўзбраенняў. Груба кажучы, каб заваяваць Еўропу, СССР патрэбныя былі дзясяткі тысяч танкаў ля мяжы. Па аналогіі з ядзерным стрымліваннем, каб не дапусціць першага ашаламляльнага ўдару, бакі дамовіліся зрэзаць кантынгенты на еўрапейскім тэатры ваенных дзеянняў.

СССР сканаў. Але абмежаванні на колькасць узбраенняў у межах ДОВСЕ засталіся. Расія выйшла з ДОВСЕ 11 сакавіка гэтага года. А Беларусь засталася.

Дык пра якую ж «расійскую агульнавайсковую групоўку» ў Беларусі казаў Якубаў?

Ваенны эксперт, кіраўнік праекту Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў «расійскай агульнавайсковай групоўкі» ў Беларусі пакуль што не бачыць. Усё, што ў нас ёсць, — гэта дзве расійскія станцыі сувязі («Волга» пад Ганцавічамі і база сувязі ВМФ РФ пад Вілейкай) і звяно расійскіх знішчальнікаў пад Баранавічамі. Зразумела ж, няма сэнсу павялічваць колькасць сувязістаў, а ўзмацненне авіяцыйнай групоўкі патрабуе значнай падрыхтоўкі аэрадромаў. Дый авіяцыя — не тое, пра што казаў Якубаў.

Можа, мы пра нешта не ведаем, і нешта расійскае ў нас яшчэ тут ёсць? Не, кажа Паротнікаў, радыйшчыкі з лётчыкамі — гэта ўся ваенная прысутнасць Расіі ў Беларусі.

Але заявы Якубава эксперт лічыць сімптомам, на які варта звярнуць увагу. «У Маскве апошнім часам увогуле актыўна абмяркоўваецца магчымасць размяшчэння ў Беларусі сухапутнай групоўкі расійскіх войскаў. Прычым, з усім, што з гэтага вынікае, — танкі, ракеты, і гэтак далей. Колькі іх будзе, наколькі групоўка павінна быць моцнай, альбо ўдарнай — канкрэтыкі яшчэ няма ніякай, але больш важна, што гэта ўсур'ёз абмяркоўваецца», — зазначыў Паротнікаў.




«Значыць, Аляксандру Рыгоравічу могуць рана ці позна зрабіць прапанову», — лічыць Паротнікаў.

Прычым, мяркуе Паротнікаў, тое, што Беларусь застаецца сябрам ДОВСЕ Расіі не перашкодзіць. Так што прапанову на размяшчэнне сваіх войскаў у Беларусі Масква зрабіць можа. А вось ці прыме яе Беларусь — у гэтым у Паротнікава вялікія сумневы.

«Зараз ідзе гэткая «палітыка разрадкі» ў адносінах з Еўропай. Афіцыйны Мінск не зацікаўлены ва ўцягванні сябе ў канфлікт з Захадам у любой форме. Размяшчэнне ж такой групоўкі ў Беларусі, першае, — выклікае скрайне негатыўную рэакцыю з боку еўрапейцаў, і другое — прадэманструе, што Лукашэнка не з'яўляецца самастойным, не з'яўляецца суб'ектам. Гэта будзе пацвярджэннем устойлівага ў некаторых колах Захаду меркавання, што «Лукашэнка — марыянетка Масквы», і размаўляць з ім бессэнсоўна. Аляксандру Рыгоравічу гэта не выгадна ні з якога боку. Нават калі за гэтую групоўку яму прапануюць грошы, ён будзе супраціўляцца да апошняга», — лічыць вайсковы эксперт.

**Мы пра нешта не ведаем, і нешта расійскае ў нас яшчэ тут ёсць?**

«Заява Якубава — гэта маркер настрояў, якія пануюць у расійскіх колах, і настроі гэтыя не вельмі прыемныя ў цэлым для рэгіёна. Але пакуль што рускіх танкаў нам тут чакаць не прыйдзецца — беларускае кіраўніцтва мае намер трымацца далей ад супрацьстаяння Расіі і Захаду. Я думаю, што нашы кіраўнікі рэальна разумеюць фінансавае становішча Расіі, а нам патрэбныя грошы. Грошы можа даць Захад, Міжнародны валютны фонд. А калі тут будуць расійскія танкі — гэта значыць, бывай, заходнія крэдыты, бывай, заходнія інвестыцыі. І нават можа здарыцца так, што тут не будзе заходняй прадукцыі, якая, пасля перапрацоўкі з лэйблам «made in Belarus» ідзе далей у Расію», — кажа Паротнікаў.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ВІЦЕБСК. Знікла пахаванне невядомага салдата



**Вёску Паўлавічы спалілі па загадзе віцебскіх уладаў у 2012 годзе. А сёлета знікла магіла невядомага салдата, якой апекаваліся вяскоўцы. Пераканаўся ў гэтым пенсіянер Андрэй Салаўёў, колішні жыхар вёскі Паўлавічы.**

Паводле Андрэя Салаўёва, сёлета ён вырашыў наведаць магілу невядомага салдата, які загінуў падчас абароны Віцебска ў 1941 годзе і быў пахаваны паблізу Паўлавіч. Раней месца пахавання было добра відаць з шашы, якая вядзе на Лепель. Аднак знікла і агароджа, і абеліск над магілай, і сам надмагільны грудок зраўнялі з зямлёй.

Андрэй Салаўёў пачуў пра гэта ад свайго знаёмага — кіроўцы, які неадназова праязджаў побач з помнікам. Ён распавядае, што спачатку не паверыў, як такое можа быць. Але потым сам наведаў месца пахавання і пераканаўся: магілы невядомага салдата на ранейшым месцы няма. Таму спадар Салаўёў спачатку звярнуўся туды. Аднак у сельсавеце адказалі, што пра лёс пахавання нічога не вядома. Тады пенсіянер напісаў заяву ў Віцебскую гарадскую пракуратуру — каб там далі прававую ацэнку дзеянням асоб, што загадалі зруйнаваць пахаванне. Бо ў апошнія гады свайго існавання вёска Паўлавічы тэрытарыяльна ўваходзіла ў Першамайскі раён абласнога цэнтру, і менавіта гарадскія ўлады ў 2012 годзе аддалі загад, каб яе знесці, спаліўшы хаты і гаспадарчыя пабудовы вяскоўцаў.

Вёску на вачах у апошніх жыхароў спалілі 3 снежня 2012 года, даўшы людзям «на зборы» ўсяго тры дні. Пяцёра вяскоўцаў вырашылі дабівацца кампенсацыі за знішчаную маёмасць, звярнуўшыся ў пракуратуру, суд і да гарадскіх чыноўнікаў. Аднак іх высілкі плёну не далі: знос быў прызнаны законным, а старшыня Віцебскага гарвыканкаму Віктар Нікалайкін абвясціў, што апошнія жыхары карысталіся зямлёй і будаваліся на гэтым месцы незаконна: маўляў, яшчэ ў 1992 годзе было прынята рашэнне пра знос Паўлавічаў, і жыхары пазбавіліся сваіх хат, садоў і агародаў адпаведна з рашэннем Віцебскага аблвыканкама 20-гадовай даўніны. Адстойваць пазіцыю жыхароў Паўлавічаў спрабавалі і віцебскія праваабаронцы, але з Віцебскай пракуратуры ім адказалі, што яны не маюць права займацца справамі аб зносе чужой маёмасці.

### БАБРУЙСК. Ініцыятыва для пенсіянераў, інвалідаў і беспрацоўных



**Грамадскія актывісты Бабруйску аб'ядналіся дзеля стварэння ініцыятывы «Жыццё ў дзейнасці». Яе прэзентацыя адбылася ў мясцовым офісе АГП.**



Мэта ініцыятывы — даць магчымасць самарэалізоўвацца актыўным пенсіянерам, людзям з інваліднасцю і людзям, якія страцілі працу. На прэзентацыі прайшлі майстар-класы па саломапляценні, выцінанцы, валянні з лямцу, вышыўцы і народных танцах.

«Спачатку наша ініцыятыва задумвалася толькі для занятасці пенсіянераў. Але потым мы ўбачылі, што ёсць і іншыя людзі, якія хочуць займацца творчасцю, але не ведаюць, дзе навучыцца. Адзначу, што гэта не толькі занятасць, гэта яшчэ і магчымасць зарабіць грошы. А зараз гэта вельмі актуальнае пытанне. Да нас на майстар-класы, напрыклад, прыходзілі беспрацоўныя бабруйчане, якія рады магчымасці навучыцца таму ж валянню з лямцу. Спадзяемся, нехта з іх авалодае майстэрствам і зможа афіцыйна зарабляць грошы, аформіцца як рамеснік», — кажа адна з актывістак ініцыятывы Галіна Смірнова.

У склад ініцыятывы ўваходзяць актывісты прафсаюза РЭП, прафсаюза СПБ, грамадскай арганізацыі «Маладыя хрысціянскія дэмакраты», грамадзянскай ініцыятывы «Мой дом, мой горад», грамадскай арганізацыі «Ветэраны Адраджэння».

«Прыемна, што на прэзентацыю прыйшлі не толькі знаёмыя, але і незнаёмыя людзі, — кажа Галіна Смірнова. — У працэсе аказалася, што шмат хто з нашых гасцей сам можа нечаму навучыць іншых. Напрыклад, на нашы майстар-класы па валянні лямцу прыходзіла вазочніца Анастасія Фёдарава, а зараз яна сама прапануе навучыць ахвотных маляваць на кампутары. І гэта цудоўна, што людзі самі выступаюць з ініцыятывай. Спадзяемся, кола майстроў і навучэнцаў будзе пастаянна пашырацца, — адзначыла актывістка ініцыятывы «Жыццё ў дзейнасці».

**Паводле spring96.org**

# Памяці жыхароў краін Балтыі

Марат ГАРАВЫ

**Пасол Латвіі ў Беларусі Міхаіл Папкоўс выказаў надзею, што цягам часу да грамадзянскай супольнасці, якая займаецца ўшанаваннем памяці ахвяраў сталінізму ў Курапатах, далучыцца і беларуская дзяржава.**




Пра гэта дыпламат заявіў 15 чэрвеня ў Курапатах падчас адкрыцця мемарыяльнай шыльды на крыжы, пад якім, мажліва, ляжаць парэшткі грамадзян краінаў Балтыі, забітых пасля пачатку савецкай акупацыі Літвы, Латвіі і Эстоніі ў чэрвені 1940 года.

Шыльда з тэкстам: «Памяці жыхароў краін Балтыі, расстраляных НКВД у 1940 годзе» была ўсталяваная з ініцыятывы беларускіх сябраў міжнароднага гісторыка-асветнага, дабрачыннага і праваабарончага таварыства «Мемарыял» (Расія) і айчыннай грамадзянскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты».

Актывісты гэтых структураў прымалі ўдзел у перапахаванні парэшткаў ахвяраў сталінізму пасля таго, як у 2009 годзе невядомыя вандалы раскапалі адно з курапацкіх пахаванняў. Паколькі яно датуецца перыядам пасля пачатку акупацыі краінаў Балтыі Савецкім Саюзам і ўтрымлівае фрагменты абутку, які быў зроблены па-за межамі Польшчы і СССР, ёсць падставы меркаваць, што ў Курапатах супрацоўнікі НКУС расстрэльвалі грамадзян Літвы, Латвіі і Эстоніі, зазначыў даследчык гісторыі сталінскіх рэпрэсій Ігар Кузняцоў. Ён таксама нагадаў пра сведчанні былых вязняў сталінскага ГУЛАГу і супрацоўнікаў НКУС, што ў турмах БССР з лета 1940 года знаходзіліся зняволеныя жыхары балтыйскіх краінаў.

Падчас талакі ў Курапатах грамадскія актывісты спачатку ўсталявалі крыж на месцы забойства ахвяраў сталінізму, а затым на гэтым крыжы — памятную шыльду.

У цырымоніі яе адкрыцця, прымеркаванай да 75-годдзя пачатку савецкай акупацыі Літвы, Латвіі і Эстоніі, удзельнічалі прадстаўнікі амбасадаў краінаў Балтыі, праваслаўны святар, айцец Леанід (Акаловіч), грамадскія актывісты і журналісты недзяржаўных СМІ.

# Дачакаліся рамонту

Зінаіда ЦІМОШАК

**Жыхары Слуцку з восені чакалі роўную дарогу, а атрымалі груды камянёў на вуліцы.**

Увосень мінулага года больш за 240 случакоў звярнуліся да мясцовых уладаў і ЖКГ з просьбай прывесці вуліцу Якуба Коласа ў прыстойны выгляд, годны памяці славутага беларуса. Людзі прасілі замяніць рускамоўныя таблічкі з іменем аўтара «Новай зямлі» на беларускамоўныя, засыпаць ямы і заасфальтаваць вуліцу.

На працягу некалькі месяцаў з райвыканкама і ЖКГ прыходзілі адпіскі з адмовамі. Высветлілася, што на напісанне імя беларускага пісьменніка па-беларуску няма грошай, а асфальтаванне дарогі не плануецца, толькі магчыма падсыпаць дарогу ў месцах прасядання пясчана-гравійнай сумессю.

У маі доўгачаканы «рамонт месцаў прасядання» быў завершаны, пра што падпісанты атрымалі адпаведны адказ з Слуцкага райвыканкама. Праўда, добраўпарадкаванне вуліцы зроблена так, што адныя случакі ўспрымаюць яго як жарт з жыхароў, другія — як здзек з калектыўнага звароту.

Па словах спадарыні Валянціны, што пражывае ў доме №6 па вуліцы Якуба Коласа, на самай справе ніякай падсыпкі не было.

— Па вуліцы коўзаўся грэйдар і навыдзіраў камянёў з дарогі, — гаворыць жанчына. — Камяні былі вялізныя, ляжалі грудамі на вуліцы. Немагчыма было ні прайсці, ні праехаць. Мы з суседзямі крыху пасцягвалі іх з дарогі на ўласныя двары. Баяліся, каб увечары людзі не паламалі ногі. Аб такія камяні б'юцца і днішчы аўтамабіляў. Вось рамонт дык рамонт!

Суседка спадарыні Валянціны лічыць, што камянёў супрацоўнікі ЖКГ накідалі спецыяльна, каб людзі больш не скардзіліся і не падпісвалі калектыўных зваротаў.

— Мы так узрадаваліся, калі пачулі гул трактара. Спадзяваліся, што ўрэшце і наша вуліца акультурыцца. Ды дзе там! І ямы засталіся, і аб камяні цяпер спатыкаемся. На вуліцы жыве шмат пенсіянераў, яны і так ледзве ногі цягаюць. Павінны ж існаваць нейкія стандарты пры добраўпарадкаванні дарог.

Што датычыцца стандартаў, яны сапраўды існуюць. І для дадзенага выпадку «добраўпарадкавання» ёсць адмысловы артыкул Дзяржаўнага стандарту Рэспублікі Беларусь СТБ 1291-2007. Згодна з ім, на пакрыцці праезджай часткі аўтамабільных дарог і вуліц не павінны знаходзіцца староннія прадметы (камяні, цэгла і іншыя).

Атрымліваецца, што арганізацыя, якая нясе адказнасць за бяспеку дарогі, сама ж і стварае пагрозы для бяспечнага дарожнага руху. Цяпер жыхары збіраюцца звярнуцца з лістом да інспектараў ДАІ, каб яны зрабілі свае высновы пра рамонт.

# Вязень абвясціў галадоўку

Марат ГАРАВЫ

**Вязень Аршанскай выпраўленчай калоніі №8 52-гадовы Андрэй Федаровіч з Мінска абвясціў галадоўку. Пра гэта НЧ паведаміла маці вязня, 76-гадовая Тамара Федаровіч.**

Яна распавяла, што 12 лютага 2010 года яе сын быў асуджаны судом Першамайскага раёна Мінска на 9 гадоў зняволення з адбываннем пакарання ў калоніі строгага рэжыму за набыццё, перавозку і захоўванне макавай саломкі ў вялікім памеры — 1,611 кг. (ч.3 арт.328 КК Рэспублікі Беларусь).

Як пацвердзіла спадарыня Тамара, яе сын на самай справе быў наркаманам, і яна сама ў свой час паставіла яго на ўлік у наркадыспансэры. Аднак апошнія перад судом гады Андрэй Федаровіч ужо не ўжываў наркотыкі, амаль год працаваў рабочым УП «Зелянбуд» Першамайскага раёна сталіцы, дзе характарызаваўся выключна станоўча і за сваю працу атрымліваў прэміі. Згодна заключэнню судовай экспертызы, у Андрэя Федаровіча хацця і было ўстрыманне ад наркотыкаў, але залежнасць ад іх захавалася. Вось чаму восенню 2009 года Андрэй Федаровіч і купіў макавую саломку ў бабулі ў адной з вёсак Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Разам з тым, вязень да суду ніколі не прыцягваўся да адказнасці за распаўсюд наркотыкаў, нават з'яўляючыся наркаманам.

Каментуючы сітуацыю з вязнем Аршанскай калоніі, юрыстка Тамара Сяргей зазначыла, што яна пазнаёмілася з матэрыяламі справы Андрэя Федаровіча, дзе няма ніводнага доказу ягонай віны ў распаўсюдзе наркотыкаў. «Прысуд вынесены на аснове не доказаў, а меркаванняў. Таму патрэбная перакваліфікацыя гэтай справы. Аднак на ўсе скаргі Андрэя Федаровіча ў органы суду і пракуратуры ён атрымлівае фармальныя адпіскі. Вось чаму вязень і пайшоў на галадоўку», — сказала Тамара Сяргей.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не на сваім месцы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**А якія былі чаканні! Як распісвалі розныя СМІ прызначэнне напрыканцы мінулага года новага ўрада! Маўляў, яны і эканамісты, і спецыялісты, і прафесіяналы! Новы ўрад тады плёскаўся ў кампліментах, і нават «нячэсныя» СМІ выдалі яму пэўны крэдыт даверу. Ну і дзе вынікі?**

Прайшло паўгода. Кіраўнік краіны наведаў прадпрымальнікаў на рынку «Экспабел», aзнаёміўся з часова непрацуючым МТЗ і падпісаў дэкрэт пра дармаедства. А чым займаецца ўрад? А ўрад пацiху прыпісвае сабе чужыя дасягненні.

Прэм'ер-міністр краіны Андрэй Кабякоў заявіў днямі, што Беларусь, аказваецца, — «донар стабільнасці» ў рэгіёне. «Мяркую, што развіццё падзей у свеце за апошні год і еўрапейцам дазволіла зірнуць на Беларусь інакш. Мы адыгрываем важную ролю донара стабільнасці ў рэгіёне. Мы спадзяемся, што гэтая роля дазволіць нашым партнёрам па-новаму зірнуць на развіццё сітуацыі ўнутры Беларусі», — заявіў Кабякоў на сустрэчы з паслом ФРГ з нагоды завяршэння яго дыпмісіі.

Пачнём з таго, што вельмі нязвыкла чуць палітычныя заявы з вуснаў не каго-небудзь, а «эканамічнага» кіраўніка ўрада. Статус Беларусі як «перамоўнай пляцоўкі» — не заслуга Кабякова. І ўвогуле, такой пляцоўкай Беларусь стала з ініцыятывы Украіны, якая добра адчула нежаданне беларускага кіраўніцтва ператварыцца ў плацдарм для размяшчэнні расійскіх войскаў уздоўж паўночнай мяжы Украіны і стаць часткай блакаднага эканамічнага кальца. І калі да «Мінска–1» Кабякоў, як тады яшчэ кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, мог мець дачыненне, то да больш маштабнага «Мінска–2» як прэм'ер ён увогуле — ніякім бокам.

«Мы гатовыя да аднаўлення паўнавартаснага дыялогу з Германіяй і ЕС на аснове раўнапраўя і ўзаемнай павагі. Упэўнены, што гэта супадае з інтарэсамі нашых краін і народаў. Не мова санкцый, а адкрыты дыялог дапаможа знайсці аптымальнае рашэнне па тых праблемных пытаннях, якія існуюць у нашых адносінах», — шчыраваў чыноўнік перад паслом ФРГ, забываючыся, што ён — прэм'ер Андрэй Кабякоў, а не міністр замежных спраў Уладзімір Макей.

Хіба гэтага чакалі ад «эканамічнага» прэм'ера? Лукашэнка, прызначаючы Кабякова, дакладна паставіў яму задачу. «Чакаю ад вас канструктыўных прарыўных ідэй для павышэння эфектыўнасці нашай эканомікі. Вы — штаб па вызначэнні метадаў і шляхоў дасягнення ўстойлівага, збалансаванага развіцця беларускай эканомікі і павышэння дабрабыту народа», — казаў правадыр дзяржавы, прадстаўляючы Кабякова ў ролі прэм'ера.

Прэм'ерская ж дзейнасць Кабякова пакуль не бліШчыць дасягненнямі, хутчэй, наадварот. Аб'ём прамысловай вытворчасці Беларусі за пяць месяцаў 2015 года знізіўся на 7,7% да аналагічнага перыяду 2014 года, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. Зніжэнне прамвытворчасці па выніках студзеня складала 6,2%, студзеня-лютага — 5,8%, студзеня-сакавіка — 7,3%, студзеня-красавіка — 7,5%. У маі вытворчасць знізілася на 0,2% у месячным вылічэнні (да красавіка 2015 года) і на 8,7% — у гадавым (да мая 2014 года).



Андрэй Кабякоў: **«Мы адыгрываем важную ролю донара стабільнасці ў рэгіёне»**

За студзень-красавік 2015 года стратнымі былі 1 705 арганізацый, або 21,5% ад агульнай колькасці арганізацый, якія ўлічваюцца ў бягучым парадку. Сума чыстай страты гэтых арганізацый за студзень-красавік склала 9,3 трлн. рублёў, што ў паўтара разы больш, чым за студзень-красавік 2014 года.

Наконт «павышэння дабрабыту народа» — увогуле швах. Рэальныя даходы беларусаў працягваюць падзенне з красавіка 2014 года. Толькі ў студзені-красавіку гэтага года грашовыя паступленні скараціліся на 4,2% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

Не здолеў Кабякоў, насуперак загаду Аляксандра Рыгоравіча, і ўтаймаваць рост цэнаў. З пачатку года цэны ў Беларусі падняліся на 6,5%. Больш за ўсё падаражэлі платныя паслугі — на 9,1%. У маі інфляцыя склала 0,7%.

І зусім кепская сітуацыя настала ў сувязі з дэкрэтам аб дармаедстве. «Донар стабільнасці» пачаў страчваць паказчыкі агульнай занятасці. Беспрацоўе набірае абароты шалёнымі тэмпамі. Колькасць вакансій у Мінску стала менш амаль у тры разы ў параўнанні з мінулым годам, а беспрацоўных — у разы больш. Як распавяла TUT.BY намеснік начальніка міжраённага аддзела працаўладкавання «Першамайскі, Савецкі, Цэнтральны» Ірына Бранавец, штодзённа службы занятасці рэгіструюць да 20 беспрацоўных, а працадаўцы зараз ладзяць конкурсны адбор нават грузчыкаў, якім прапануюць усяго 3–4 мільёны рублёў у месяц.

У Віцебску на 1 ліпеня беспрацоўных зарэгістравана ў 2,3 раза больш, чым за такі ж перыяд 2014 года. Патрэба ў кадрах паменшылася ў 2,5 раза, у сярэднім на адно працоўнае месцаў прыходзіцца 4,4 прэтэндэнта.

Увогуле, па стане на канец красавіка афіцыйнае беспрацоўе ўпершыню з 2007 года дасягнула 1%. А ў параўнанні з сакавіком гэтага года колькасць непрацуючых павялічылася на 11,2%! Лідарамі па звальненнях апынуліся тая ж прамысловасць (звольнена 19 264 чалавекі), гандаль і рамонт аўтамабіляў (9 659), сельская і лясная гаспадаркі (8 946) і будаўніцтва (6 533). То бок, скарачаюцца, найперш, «флагманы беларускага эканамічнага цуду»: прамысловасць, гандаль, будаўніцтва.

Варта зазначыць, што хутка ў беларускага прэм'ера — вельмі цяжкая справаздача. Нават не перад Аляксандрам Рыгоравічам. Бо менавіта ён адказны за тое, што сам Лукашэнка будзе прамаўляць перад выбарамі на чарговым Усебеларускім сходзе. Лукашэнка таксама пра гэта папярэджваў: праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2016–2020 гады, якую трэба будзе абараніць на Усебеларускім народным сходзе, — цалкам праблема ўрада.

На што зваліць Кабякоў паўнавартасны эканамічны крызіс, у якім знаходзіцца Беларусь? На дрэнных ворагаў за мяжой, якія «нам стварылі крызіс»? Не атрымаецца: з Захадам адносіны ў нас нармалізуюцца, а рабіць ворага з Масквы — сабе даражэй. На «ўнутраных ворагаў» — дык іх амаль не засталося. Нават апазіцыя ўжо не крытыкуе ўладу, бо там усё і без крытыкі зразумела.

На «народзец», які скупляе валюту? Гэта будзе вельмі цікава выглядаць на Усебеларускім народным сходзе.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Вольга Мікалайчык

**Рэжысёрка і грамадская актывістка дзіўным чынам стала «чалавекам без пашпарту».**

Нагадаем, што міліцыянты забралі ў яе пашпарт яшчэ 26 мая, падчас затрымання за перформанс «Касметычка начных ваўкоў» каля будынку расійскага пасольства. Тады Мікалайчык абвінавацілі ў брыдкаслоўі і супраціве міліцыі і далі 13 сутак. Але па гэты дзень яе так і не адправілі для адбыцця пакарання.

Асноўны доказ невінаватасці актывісткі — відэа з камер расійскага пасольства. Падчас разгляду касацыйнай скаргі Вольгі Мікалайчык суддзя Валерый Камісараў пагадзіўся з патрабаваннем актывісткі паглядзець запіс і высветліць, ці сапраўды яна лаялася матам і аказвала супраціў міліцыі, як заяўляе абвінавачванне.

Пасля пасяджэння актывістка прыходзіла да суддзі і спрабавала вярнуць пашпарт, аднак Валерый Камісараў не аддаў яго, спасылаўшыся на тое, што Вольга з'яўляецца «арыштаванай па адміністрацыйнай справе», а пашпарт з'яўляецца часткай матэрыялаў справы. Між тым, для адбыцця пакарання Мікалайчык не накіроўваюць, а касацыйная скарга пакуль не разгледжаная.

«Вельмі непрыемная сітуацыя, бо я не магу ні да лекара трапіць, ні да стаматолага. Без пашпарта я не магу вырашаць бытавыя праблемы. На дадзены момант я не адміністрацыйна арыштаваная, я на волі, і мая віна не даказаная. Гэта проста абуральнае парушэнне маіх правоў і закона», — адзначае актывістка.



## Лідзія Ярмошына

**Старшыня Цэнтрвыбаркама абвінаваціла прадстаўнікоў дэмакратычных партый у неталерантнасці.**

Рэгулярнае неўключэнне прадстаўнікоў апазіцыйных партый у выбарчыя камісіі спадарыня Ярмошына абгрунтавала, па-першае, тым, што беларуская апазіцыя занадта малалікая, каб забяспечыць палову складу выбарчых камісій.

«Палова ўдзельнікаў (выбарчых камісій — аўт.) з боку апазіцыі немагчымая — у апазіцыі занадта мала кадраў. Нашы мясцовыя выканаўчыя органы не імкнуцца выконваць заяўкі апазіцыі. І я іх разумею, таму што большая частка тых, хто прэтэндуе на гэтыя месцы, — гэта, як правіла, гарадскі эпатажны асяродак, які ўвесь час канфліктуе з уладай», — заявіла Ярмошына.

Па-другое, «выканкамы не хочуць ствараць пажар, які будзе цісну ць на ўсіх астатніх членаў камісіі, нармальных талерантных людзей, якіх угаварылі выканаць свае грамадскія абавязкі».

Паводле яе слоў, сярод апазіцыі ёсць талерантныя інтэлігентныя людзі, якія не ладзяць скандалы на пустым месцы. «Гэтыя людзі ўключаюцца. Але працэнт, які задавальняе ўладу, не задавальняе апазіцыю», — заявіла кіраўніца ЦВК.



## Віктар Ганчарэнка

**Былы трэнер БАТЭ больш не з'яўляецца беспрацоўным. Ён узначаліў екацярынбургскі «Урал».**

Пра гэтым паведамляецца ў афіцыйным твітары клуба. Пагадненне са спецыялістам падпісанае на тры гады.

Віктар Ганчарэнка працаваў у беларускім БАТЭ і краснадарскай «Кубані», з якой быў звольнены ў лістападзе 2014 года па рашэнні кіраўніцтва клуба. У якасці трэнера ён шэсць разоў станавіўся чэмпіёнам Беларусі і двойчы выводзіў БАТЭ ў групавы этап Лігі чэмпіёнаў. Ганчарэнка ўваходзіў у спіс прэтэндэнтаў на пасаду галоўнага трэнера расійскага «Спартака», але ў выніку на пасаду настаўніка чырвона-белых былі прызначаны былы капітан каманды Дзмітрый Аленічаў.

Характэрна, што ўсяго тыдзень таму Ганчарэнка адхіліў запрашэнне «Урала». Тым не менш бакі зноў вярнуліся да перамоваў і на гэты раз дасягнулі згоды.



# Міхаіл Пастухоў: У Беларусі існуе дыскрымінацыя недзяржаўных ВНУ

Сяргей ПУЛЬША

**Рашэнне аб далучэнні нашай краіны да Балонскага працэсу было, хутчэй, палітычным, чым лагічным. Наша сістэма адукацыі яшчэ далёкая ад еўрастандартаў. Але само далучэнне краіны да еўрапейскай адукацыйнай прасторы дае шанец на рэформы.**

Што трэба зрабіць, каб сапраўды адпавядаць еўрапейскай адукацыі? Гэта не толькі самакіраванне і «акадэмічныя свабоды» ў айчынных ВНУ, пра што звычайна згадваюць… Усё больш складана, бо наша сістэма адукацыі проста дыскрымінацыйная. Пра гэта разважае прафесар аднаго з недзяржаўных ВНУ Міхаіл Пастухоў.

## Дыскрымінацыя ВНУ

Паводле інфармацыі міністра адукацыі Міхаіла Жураўкова, у краіне зараз існуюць 54 ВНУ, у якіх навучаюцца больш за 350 тысяч студэнтаў. Пры гэтым недзяржаўных ВНУ засталося менш дзесяці.

Чаму так небагата недзяржаўных ВНУ? Па меркаванні Пастухова, у Беларусі існуе іх «схаваная дыскрымінацыя». Па сутнасці, дзяржаўныя ВНУ павінны быць арыентаваны на падрыхтоўку неабходных для краіны спецыялістаў. А значыць, яны павінны прадастаўляць бясплатную вышэйшую адукацыю. На справе ж дзяржаўныя ВНУ заняліся заробкам грошай: каля 70% студэнтаў у іх вучыцца на платнай аснове. То бок, яны «адцягваюць» студэнтаў з прыватных навучальных установаў.

З гэтага, дарэчы, вынікаюць праблемы саміх дзяржаўных ВНУ — вялікая нагрузка на выкладчыкаў, недахоп месцаў у інтэрнатах, навучанне студэнтаў у некалькі зменаў, нястача падручнікаў і метадычных матэрыялаў, і як вынік — невысокі ўзровень падрыхтоўкі студэнтаў.

Дзяржаўныя ВНУ павінны рыхтаваць «дзяржаўныя кадры», па дзяржзаказе і мэтавым навучанні, лічыць Пастухоў. Платнае ж навучанне павінна быць прэрагатывай недзяржаўных ВНУ.

## Дыскрымінацыя па студэнтах

З вялікай колькасці «платнікаў» у дзяржаўных ВНУ і малой колькасці прыватных ВНУ вынікае другая праблема. Зараз у краіне, кажа Пастухоў, у пэўным сэнсе «двухпатокавы» набор студэнтаў. Той, хто не трапіў на бюджэтную форму адукацыі ў дзяржаўныя ВНУ, можа падаць дакументы ў тую ж дзяржустанову на платную форму навучання і толькі ў апошнюю чаргу — у прыватную навучальную ўстанову.

«У выніку недзяржаўным ВНУ дастаюцца тыя абітурыенты, якія не прайшлі конкурс у ВНУ дзяржаўныя. На практыцы гэтыя ВНУ не маюць магчымасці канкураваць з дзяржаўнымі ў адборы лепшых навучэнцаў. Ім прыходзіцца «збіраць» студэнтаў сярэдняга і ніжэйшага ўзроўню», — зазначае Пастухоў.

А з гэтай праблемы вынікае іншая: дыскрымінацыя выпускнікоў недзяржаўных ВНУ.

## Дыскрымінацыя дыпломаў

«Адна справа, калі ты скончыш Белдзяржуніверсітэт, іншая справа — калі Беларускі інстытут правазнаўства, — кажа Пастухоў. — Безумоўна, недзяржаўныя ўстановы вышэйшай адукацыі імкнуцца падтрымліваць сваё рэнамэ і даюць не горшую адукацыю за дзяржаўныя ВНУ. Аднак выпадкі, калі іх выпускнікі ўладкоўваюцца на працу ў дзяржаўныя органы — адзінкавыя».



Працадаўцы, па словах Пастухова, аддаюць перавагу выпускнікам дзяржаўных ВНУ. Выпускнікі ж недзяржаўных зноў апынаюцца «ў другой хвалі» гэтага працэсу. Адукацыйны стандарт у краіне адзіны, і нельга сказаць, што падрыхтоўка ў прыватных ВНУ слабая. Але з-за прыніжанага статуса недзяржаўных ВНУ працадаўцы аддаюць перавагу дыплому дзяржаўнага ВНУ.

Міхаіл Пастухоў спадзяецца, што такая сітуацыя можа змяніцца. «У адпаведнасці з адзінымі еўрапейскімі стандартамі, усе ВНУ павінны прымаць меры да павышэння якасці адукацыі. Адпаведна, у нас павінен быць адзіны «еўрапейскі» дыплом, які ўжо не будзе «дзяржаўным» альбо «недзяржаўным», — спадзяецца Пастухоў.

На думку Пастухова, забяспечыць роўны статус дзяржаўных і недзяржаўных ВНУ — адна з асноўных задачаў Балонскага працэсу для Беларусі. «Па вялікім рахунку, платная форма навучання ў дзяржаўных ВНУ павінна быць скасаваная ці істотна абмежаваная. Прыватныя ВНУ могуць дапаўняць навучанне ў той частцы, у якой маецца патрэба ў насельніцтва», — лічыць ён.

Зразумела, што дзяржаўныя ВНУ павінны забяспечваць стратэгічныя для краіны кірункі: медыцына, індустрыя, тэхналогіі, педагагічнае навучанне. «Што тычыцца шырокага спектру спецыяльнасцяў, то гэтую сферу трэба аддаць прыватным ВНУ», — зазначае Пастухоў.




## Другая ступень адукацыі

Што краіне трэба будзе мяняць вельмі істотна — гэта другую ступень адукацыі, упэўнены Пастухоў. Таму што яна ў нас засталася і застаецца спрэс савецкай. Гэта тычыцца аспірантуры і дактарантуры.

З бакалаўрэатам — то бок універсітэцкай адукацыяй, у нас усё больш-менш зразумела. Зараз амаль усе ВНУ пасля пятага курса выдаюць «бакалаўрскі» дыплом. Аспірантура павінна даваць ступень магістра, пры якім аспірант мог бы працаваць выкладчыкам. Дактарантура — гэта яшчэ вышэйшы адукацыйны стандарт.

«Магчымасці больш высокага ўзроўню падрыхтоўкі ў нас вельмі абмежаваная. Якасць гэтай адукацыі пакідае спадзевы на лепшае. Яна не пастаўлена на належную аснову», — лічыць Пастухоў.

Сапраўды, чамусьці ў аспірантуры ў нас выкладаецца тое, чаму студэнт павінен быў навучыцца яшчэ падчас першай ступені адукацыі. Напрыклад, першы год аспірантуры — гэта філасофія, замежная мова і так званая «інфарматыка» — валоданне кампутарам. Калі ж казаць пра спецыялізацыю, то яе ў аспірантуры фактычна няма.

«Можна было б абмежаваць колькасць абавязковых дысцыплінаў, шэраг «другасных» прадметаў перавесці на факультатыўную форму навучання. Гэта дазволіць сканцэнтраваць больш увагі на сапраўды важных задачах», — лічыць Пастухоў.

Калі ж казаць пра дактарантуру, то ў Беларусі перспектываў для таленавітай моладзі — кату па пяту. Па-першае, з-за «цэнзуры» Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, у якой вельмі складана «прабіць» доктарскую дысертацыю. А па-другое, наяўнасць вучонага звання не вельмі стымулюецца матэрыяльна. «Лепш пайсці на дзяржслужбу альбо ў камерцыйную структуру і зарабляць там больш, чым прафесар», — малюе сітуацыю Пастухоў.

Ад савецкай сістэмы трэба сыходзіць хаця б таму, што яна сябе ўжо не апраўдвае. «Беларусь зараз проста не гатовая перайсці да еўрапейскай адзінай ступені доктара навук. Можна па пальцах пералічыць тых навукоўцаў, якім удалося абараніць доктарскую дысертацыю па юрыдычнай спецыяльнасці ў Беларусі. Затое багата выпадкаў, калі навукоўцы едуць у Расію і абараняюць там свае дысертацыі з першай жа спробы. А між тым, Расія ў Балонскім працэсе з 2003 года», — адзначае Пастухоў.

## Шанец для адукацыі

Міхаіл Пастухоў прапануе стварыць навуковую раду ці грамадскую суполку па рэалізацыі палажэнняў Балонскага працэсу. «У гэтую раду павінны ўвайсці прадстаўнікі беларускіх ВНУ, каб вызначыць стратэгічную праграму па павышэнні якасці адукацыі ў сувязі з уваходам у Балонскі працэс. Магчыма, трэба стварыць незалежныя экспертныя цэнтры, якія б ажыццяўлялі маніторынг за ўзроўнем адукацыі, выпрацоўвалі новыя праграмы», — мяркуе ён.

Старшынёй гэтай Рады мог бы стаць Уладзімір Дунаеў, кіраўнік беларускага грамадскага Балонскага камітэта. «Нам трэба паказаць, што трэба зрабіць для паляпшэння нашай сістэмы адукацыі з улікам еўрапейскіх стандартаў адукацыі», — зазначае Пастухоў.

«Балонскі працэс дае нам шанец, і мы абавязаныя зрабіць канкрэтныя крокі дзеля павышэння якасці вышэйшай адукацыі, выраўняць статус нашых ВНУ і аслабіць кіраванне навучальнымі ўстановамі з боку органаў улады», — кажа Пастухоў.

# За каго яны, за Расію ці за Латвію?

Аксана КОЛБ

**«Вось за каго я, за Расію ці за Латвію? Я прыехаў з Мурманску, там жыве мая маці. А я тут жыву шмат гадоў, і жонка мая — латышка», — ці то пытаўся, ці то разважаў нецвярозы мужчына на аўтавакзале Рыгі.**





— А дзе ваша радзіма? — спытала я.

— Ну, тут мая сям'я, значыць, мая радзіма — Латвія.

— Тады ў чым пытанне, значыць, вы — за Латвію.

— Але я ж рускі...

Гэты дыялог літаральна перад самым ад'ездам у Беларусь падвёў своеасаблівую рысу пад маёй спробай разабрацца ў памкненнях так званага «рускага свету» Латвіі. Бо на самай справе даць адназначны адказ на пытанне, на чый бок стаць, — і проста, і надзвычай складана. Проста — тым, хто прывык думаць сваёй галавой, аналізаваць і мець уласнае меркаванне. Складана — тым, хто верыць у любую прапаганду і думае толькі страўнікам. Гэта тычыцца не толькі Латвіі. І такія нецвярозыя ваганні «за каго я» можна, напэўна, пачуць ледзь не ў кожнай краіне былога СССР, асабліва калі яна мяжуе з Расіяй.

Што тычыцца Латвіі, то для яе пытанне ідэнтычнасці цесна сплялося з пытаннем грамадзянства і неграмадзянства.

## Бо мы тут жылі...

Па стане на пачатак 2015 года ў Латвіі пражывала 262 тысячы неграмадзян (12% насельніцтва). Амаль 60 працэнтаў з іх — этнічныя рускія. То бок праз 20 гадоў пасля атрымання магчымасці каля 150 тысяч рускіх так і не сталі грамадзянамі краіны, у якой пражылі шмат гадоў. Пытанне: «Чаму?» я задавала ўсім тым неграмадзянам у Латвіі, якіх сустракала. Ведаеце, які быў самы распаўсюджаны адказ? «Гэта зневажальна...» Растлумачыць, што менавіта для іх зневажальна, ніхто так і не змог.

Пасля высвятлялася, што камусьці не хочацца вучыць латышскую мову (бо за 40–30 гадоў жыцця ў Латвіі яны нават і не думалі яе вучыць, а зараз цяжка). Хтосьці не прымаў грамадзянства, каб у свой час не ісці служыць у армію. І хаця зараз такой неабходнасці няма (армія ў Латвіі прафесійная), пытанне грамадзянства стала неактуальным, бо асаблівых нязручнасцяў не дастаўляе. А некаторыя не хочуць быць грамадзянамі, каб без віз ездзіць у Расію (у большасць краін Еўропы яны таксама ездзяць без віз).

Але ёсць і тыя, якія лічаць, што грамадзянства ім павінны былі даць, бо яны тут жылі — і кропка. Так, напрыклад, лічыць Валянціна Іванаўна. Яна прыехала ў Латвію напачатку 1960-х гадоў разам з мужам-вайскоўцам. Тут і засталіся жыць пасля выхаду ў адстаўку. Валянціна Іванаўна вельмі пакрыўджаная на латвійскія ўлады, бо лічыць, што на грамадзянства яна мае поўнае права. Дарма, што за ўсе гады жыцця ў Латвіі ні яна, ні муж так і не навучыліся размаўляць па-латышску. «Я наогул не разумею, чаму мы павінны ў нашым узросце здаваць нейкія экзамены. У Латвіі такая колькасць рускамоўных, а ўлады адмаўляюцца зрабіць рускую мову другой дзяржаўнай... — разважае Валянціна Іванаўна. — Мне тут іх мова не патрэбная. Мае суседзі ўсе рускамоўныя. І наогул, мая родная мова — руская. Ай, і грамадзянства мне іх непатрэбнае».

## Не чапайце святы

Не патрэбна грамадзянства ні Латвіі, ні Расіі (ні якой іншай краіны) і 48-гадоваму Рэму Маславу. Ён шчыра прызнаецца, што яму складана вывучыць латышскую, бо ён прыехаў у Рыгу пасля заканчэння школы з Пскоўскай вобласці, дзе жыў у бабулі. «Тут увесь час жыла мая маці, і я прыязджаў да яе на час канікулаў. Таму Латвія была для мяне як казка, — расказвае Рэм. — Я прыехаў у Рыгу ў сярэдзіне 1980-х. А ў 1990-я гады разам са шматлікі рускімі вітаў незалежнасць Латвіі. Можна нават сказаць, што я за яе змагаўся. Не, непасрэдна на барыкадах я не быў, але шторанак прывозіў для пратэстоўцаў прэсу. А пасля тыя, хто сядзеў у кавярнях, атрымалі грамадзянства, а я і тыя рускія, што былі на барыкадах, не. Але зараз мне і не трэба. Я магу свабодна ездзіць у Расію да родзічаў і падарожнічаць па многіх краінах Еўропы».

Пры гэтым Рэм не хоча ехаць у Расію, яго там шмат што раздражняе. Кожны раз, калі ён прыязджае ў Пскоўскую вобласць па справах ці да сяброў, разумее, што не змог бы там жыць. Ён здзіўляецца, як наогул можна там жыць, «у такой дзікасці». Яму падабаецца Латвія. У яго тут сям'я.

«Калі раптам узнікне нейкі канфлікт, я, напэўна, буду на баку Латвіі. Але для гэтага павінны змяніцца адносіны да мяне, да такіх, як я. Я хачу размаўляць па-руску не таму, што я не паважаю гэту краіну. А таму, што я не баюся размаўляць на родная мове. І мяне раздражняюць тыя рускія, якія паміж сабой размаўляюць па-латышску. Не чапайце маю маці, хай яна размаўляе па-руску да канца сваіх дзён. Я хачу, каб маё дзіця ведала рускую мову і літаратуру, каб магло навучацца на роднай мове. Не трэба закрываць рускія школы. Не чапайце святы. Няхай будзе і 16 сакавіка, і 9 мая», — вось такія патрабаванні да ўладаў у Рэма, былога дэсантніка, а зараз прадпрымальніка.

Падумалася: вось цікава, мы ў Беларусі таксама хочам, каб нашы дзеці навучаліся на роднай мове, каб беларусы размаўлялі паміж сабой па-беларуску, каб не зачынялі беларускія школы. Вось толькі беларусы ў Беларусі — не нацыянальная меншасць...

## Прынцыповыя рускія

Такіх, як Рэм, нямала ў Латвіі. Яны законапаслухмяныя, лічаць Латвію сваёй радзімай, але пры гэтым паўсюдна, як яны кажуць, «прынцыпова» падкрэсліваюць сваю рускасць. «Калі я кудысьці заходжу, я заўсёды вітаюся, бо я ж культурны чалавек, — кажа Рэм. — Але вітаюся заўсёды па-руску, каб ведалі, што я рускі і са мной трэба размаўляць па-руску».



Рэм Маслаў

Аднак калі прыгледзіцца, то гэта «прынцыповасць» на самай справе ёсць нежаданнем прыкласці хоць мінімальнае намаганне, каб хаця б вывучыць мову краіны, дзе ты жывеш. Гэта своеасаблівы страх таго, што раптам атрымаеш грамадзянства, але так і застанешся ў гэтым жыцці лузерам. Каго тады ў гэтым вінаваціць? Можна сказаць, што гэта прынцыповая рускасць на самай справе — закасцянелая саўковасць, страх любых перамен і настальгія па халяве.

Шмат рускіх, якім зараз больш за 45 гадоў, так і не змаглі пераадолець сваю савецкасць, ці не захацелі, бо ім так камфортна. Яны жывуць так, як ім падабаецца, але пры гэтым на кожным кроку распавядаюць, што ім не даюць нармальна жыць, іх зневажаюць, іх дыскрымінуюць, іх не любяць. Але пры гэтым ніхто з іх не збіраецца пераязджаць у Расію.

— Навошта? — пытаюцца яны. — Мы тут усё жыццё пражылі.

— Каб вас ніхто не дыскрымінаваў, каб не зневажалі...

— Ну, у Расіі зараз не салодка. Дый нікому мы там не патрэбныя. Мы хочам, каб латвійскія ўлады звярнулі на нас увагу. Каб не прымушалі вучыць іх мову.

— А хтосьці прымушае?

— Ну, не ўсюды на працу возьмуць, калі не ведаеш латышскую. Школы рускія зачыняюць.

— А вы лічыце, што рускія школы павінны фінансаваць латвійскія ўлады?

— Канешне, а хто ж яшчэ?

— Калі гэта рускія школы, магчыма, Расія? У Латвіі ж няма беларускіх школ ці польскіх, чаму тады рускія павінны быць?

— Ну вы знайшлі, што параўноўваць. Гэта зусім іншае.

Гэта тыповы дыялог, які мне давялося весці не адзін раз з рускімі неграмадзянамі на вуліцах Рыгі. Давялося пару раз чуць і больш рэзкія выказванні, накшталт «навошта нам вучыць гэту сабачую мову, няхай яны вучаць рускую, бо колькі тых латышоў, а рускія — вялікі народ». Гэта былі не проста «прынцыповыя рускія», а прынцыпова «вялікія рускія». Як трапна сказаў адзін з суразмоўцаў (дарэчы, этнічны рускі), у 1990-я гады ў краінах Балтыі імперская большасць раптам стала нацыянальнай меншасцю, а мысленне і звычкі засталіся старымі, адсюль усе іх праблемы і крыўды.

## Спажыўцы прапаганды

Гэтыя крыўды, якія, здаецца, ужо збыліся, зноў вяртаюцца на тле падзей ва Украіне. Яны ўрываюцца ў паўсядзённая жыццё, здаецца, зусім не лагічна.

— Навошта Амерыка вае з Расіяй?

— ??? — я нават не адразу разумею, пра што гаворка.

— Ва Украіне. Вы што, не ведаеце?! Гэта ж Амерыка пачала гэту вайну. Бедныя ўкраінцы... — жанчына сталага веку абсалютна шчыра пачынае разважаць пра тое, што Амерыка хацела б і ў Латвіі зрабіць тое ж. Вось і NATO, маўляў, тут шчыруе.

— А я лічу, што гэта Пуцін пачаў гэту вайну.

— Вы наслухаліся амерыканскай прапаганды. Пуцін — самы лепшы прэзідэнт, які толькі быў у Расіі. Ён сваіх абараняе. Можа, і нас абароніць. Толькі ў яго зараз шмат праблем. Бо ўсе супраць яго.

Я адыходжу. Далейшая размова з гэтай жанчынай губляе ўсялякі сэнс. Наогул, размова з «прыгоннымі тэлегледачамі» (так называе спажыўцоў расійскай прапаганды Марыя Тукіна, адвакат, натуралізаваная руская) не мае сэнсу.

Гэтыя людзі чуюць толькі тое, што ўпісваецца ў іх уяўленне пра справядлівасць. Зрабіць рускую мову другой дзяржаўнай — гэта справядліва. Усім вучыць латышскую мову (бо яна ж таксама дзяржаўная) — гэта дыскрымінацыя. Адзначаць 9 мая — гэта правільна. А 16 сакавіка — ганебна. Патрабаваць такія ж правы для неграмадзян — гэта справядліва. Ведаць гісторыю і традыцыі краіны, у якой жывеш, — зневажальна.

Такіх людзей хапае. Дарэчы, у Латвіі транслюецца больш расійскіх каналаў, чым латвійскіх. У некаторых памежных рэгіёнах наогул не ідуць латвійскія каналы. Дэпутат сейма Аляксей Ласкутоў, які шмат ездзіць па розных рэгіёнах краіны, расказаў, што часам даходзіць да абсурду: людзі ўпэўненыя што прэзідэнтам Латвіі з'яўляецца Лукашэнка.

Зараз латвійскія і эстонскія ўлады пачынаюць маштабны праект па стварэнні сумеснага рускамоўнага каналу, які, па іх меркаванні, павінен даць людзям альтэрнатыву. Абараніць іх ад таго патоку бруднай расійскай прапаганды, які штодня выліваецца з экранаў тэлебачання. Магчыма, і атрымаецца.

Пакуль жа «прыгонныя тэлегледачы», назіраючы за падзеямі ва Украіне, усё часцей задаюць сабе пытанне: за каго я буду, калі раптам што? А гэта значыць, што на падсвядомым узроўні яны гэта «раптам што» не выключаюць.

TV

## 26 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**10.50** Дэтэктыўная меладрама «Не жаночая справа» (Расія).



**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Ваенная драма «Снайперы. Каханне пад прыцэлам» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-5» (Украіна).
**17.30** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**18.00** Нашы.
**18.15** Таямніцы следства.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Дэтэктыўная меладрама «Не жаночая справа» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Прэм'ера на канале! Камедыйная меладрама «Любыя жанчыны Казановы» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**01.15** Навіны.
**01.35** Дзень спорту.
**01.45** Ваенная драма «Снайперы. Каханне пад прыцэлам» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Жыць здарова!
**10.25** Кантрольная закупка.
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Фазэнда.
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Час пакажа».
**15.39** Зваротны адлік.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Зімовая вішня».
**18.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Тэлесерыял «Старэйшая дачка».
**22.05** Музычныя вечары ў Мірскім замку.
**22.35** Мастацкі фільм «Праўдзівая хлусня».
**02.35** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Кіно»: «Мішэль Вальян: прага хуткасці». Францыя, 2003г.
**10.20** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Салдаты 6». Серыял.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Эліксір маладосці».
**14.50** «Турысты». Серыял.
**16.50** «Добры дзень, доктар».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Такая лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Кіно»: «Выбух з мінулага». ЗША, 1998г.
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Турысты». Серыял.
**00.25** «Вялікая гульня». Покер-дуэль.
**01.10** «Кіно»: «Забойныя канікулы». ЗША - Канада, 2010 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дывер-сант. Канец вайны» (Расія).
**10.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**11.00** «Экстрасенсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**11.55** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.55** Капейка ў капейку.
**13.50** Вось гэта так!
**14.25** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.15** «Хачу ў тэлевізар». Рэаліці-шоў.
**16.50** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Дыверсант. Канец вайны» (Расія).
**17.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**18.55** Кіпень.
**19.15** Псіхалагічны трылер «Закладніца» (Францыя).
**20.55** Рэальны свет.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.40** «Бітва экстрасэнсаў. Барацьба кантынентаў». Містычнае рэаліці-шоў (Украіна).
**23.30** Першыя Еўрапейскія гульні ў Баку-2015.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Дзень добры і бывай!» Меладрама (СССР, 1972 г.).
**09.40** «Марыя, Мірабэла». Музычны мультфільм.
**10.45** «Ганна на шыі». Драма (СССР, 1954 г.).
**12.05** «Сіла веры».
**12.35** Калейдаскоп.
**12.45** «Дваццаць дзён без вайны». Ваенная драма. (СССР, 1976 г.).
**14.20** «Верасень 1943 года. Недзіцячы дзённік». Дакументальны фільм.
**14.50** «Душа, адлітая ў бронзе. Міхаіл Анікушын: жыццё і творчасць». Дакументальны фільм.
**15.15** «Я не паэта...». Песні Уладзіміра Мулявіна выконвае Пётр Елфімаў.
**16.40** «Марыя, Мірабэла». Музычны мультфільм.
**17.45** «Ганна на шыі». Драма (СССР, 1954 г.).
**19.10** Калейдаскоп.
**19.20** «Гамлет з Сузака, ці Мамая Кера». Драма (СССР, 1990 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Кромвель». Біяграфічная драма (Вялікабрытанія, 1970 г.).
**23.15** «Камертон». Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь Віктар Бабарыкін.
**23.45** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**07.45** Спорт-мікс.
**08.05** PRO спорт. Навіны.
**08.20** сэлф.
**08.35** Тэніс. Турнір ВТА. Істборн. Чвэрцьфіналы.
**12.20** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Валейбол.
**13.55** Фактар сілы.
**14.25** Піт-стоп.
**15.00** Тэніс. Турнір ВТА. Істборн. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**16.30** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Бокс. Фінал. Дзюдо. Фінал. Валейбол. Баскетбол. Фінал. Прамая трансляцыя.
**21.30** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**23.20** Тэніс. Турнір ВТА. Истборн. Паўфінал.
**01.25** Еўрапейскі покерны тур.
**02.15** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**02.30** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Ваенныя гульні, д/ф: ч. 4.
**09.20** Басаножам па свеце.
**09.45** Намібія. Генацыд Другога Райху, д/ф.
**10.40** Невядомая Беларусь: Пашпарт для беларуса, д/ф.
**11.10** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Князь Вітаўт. Барацьба з Ягайлам. Умацаванне Вялікага Княства Літоўскага.
**11.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Бітва пад Венай.
**11.35** Два на два (тэледыскусія): Юрый Варонежцаў і Марат Афанасьеў.
**12.05** Уладзімір Пузыня, д/ф.
**12.25** Навенькая, дэтэктыўны серыял.
**13.10** Дэкалог-89+, цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 4: Бедная мая галава.
**16.00** Каханне ля праплаву, тэлесерыял.
**16.45** Аўтаспынам па Беларусі.
**17.05** Апантаныя, дак. цыкл.
**17.15** Мова нанова: Крама.
**17.30** Намібія. Генацыд Другога Райху, д/ф.
**18.25** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Паўлюк Быкоўскі і сусветная картатэка.
**19.00** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Бітва пад Грунвальдам: ч. 1.
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.25** Невядомая Беларусь: Чарнобыль для Еўропы, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Форум (ток-шоу): Ці мы талерантныя?
**22.10** Дзеці ГУЛагу, д/ф.
**23.05** Дробныя круцялі, камедыя.
**00.35** Студыя «Белсат».

## 27 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Існасць.
**07.25** Камедыйная меладрама «Любыя жанчыны Казановы» (Расія). 1 я серыя.
**09.00** Навіны.
**09.45** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Аб ежы!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**12.50** Кулінарная дыпламатыя.
**13.25** Выхад ёсць.
**14.00** Прыгодніцкая камедыя «Скарб» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**16.10** Вострасюжэтная меладрама «Зваротны білет» (Расія).
**17.45** Прэм'ера! Дэтэктыўная меладрама «Пляменніца» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Псіхалагічная меладрама «Маша» (Расія).
**23.20** Камедыя «Кухня» (Расія).
**00.15** Дзень спорту.
**00.25** Прыгодніцкая камедыя «Скарб» (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смяшарыкі.
**09.25** Здароўе.
**10.25** Смак.
**11.05** Ідэальны рамонт.
**12.05** Разумнікі і разумніцы.
**13.10** Шматсерыйны фільм «Маскоўская сага».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Новае летняе тэлебачанне.
**17.55** Акадэмія талентаў.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**22.40** Легенды жывуць.
**23.25** Мастацкі фільм «Омэн».

### ТВ

**06.05** «Кіно»: «Выбух з мінулага». ЗША, 1998г.
**07.50** «Анфас».
**08.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**09.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**10.00** «Іншая краіна». «Там, дзе Еўропа сустракаецца з Азіяй».
**10.40** «Далёкія сваякі».
**11.00** «Мінск і мінчане».
**11.35** «Салдаты 2». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Кіно»: «Школа злодзеяў». Італія, 1986г.
**15.30** «Глядзець усім!».
**15.50** «Вялікі горад».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**16.55** «Дарагая перадача».
**17.25** «Кіно»: «Няпрошаныя госці». ЗША, 2005г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Кіно»: «Гран Тарына». ЗША - Германія, 2008г.
**22.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**23.20** «Масква. Дзень і ноч».
**01.00** «Кіно»: «Школа злодзеяў». Італія, 1986г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**07.25** Камедыйны серыял «Мая выдатная няня» (Расія).
**09.25** Навуковае шоу прафесара Адкрываш-кіна.
**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** Азбука густу.
**10.35** Прэм'ера. Анімацыйны фільм «Монстры на востраве» (Японія, Канада).
**12.15** Капейка ў капейку.
**12.50** «Бітва экстрасэнсаў. Барацьба кантынентаў». Містычнае рэаліці шоу (Украіна).
**14.40** Фантастычна-прыгодніцкі серыял «Баффі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**16.35** Крымінальны баявік «Моцны арэшак» (ЗША).
**18.50** Крымінальны баявік «Моцны арэшак 2» (ЗША).
**20.55** Рэальны свет.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.40** Рамантычная камедыя «Прыкінься маёй жонкай» (ЗША).
**23.45** Першыя Еўрапейскія гульні ў Баку-2015.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «АРТіШОК» прадстаўляе музычны гурт «Pe1ikt».
**08.35** «Палюбоўніца з Масквы». Камедыя (Расія, 2001 г.).
**09.45** «Камертон». Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь Віктар Бабарыкін.
**10.10** «Дняпроўскі рубеж». Ваенная драма. 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2009 г.).
**12.20** «Аперацыя «Баграціён». Хроніка Перамогі. Фільм трэці «Чайная ружа адквітнела». Дакументальны фільм.
**12.50** «Аперацыя «Баграціён». Хроніка Перамогі. Фільм чацвёрты «Каны на Бярэзіне». Дакументальны фільм.
**13.15** Калейдаскоп.
**13.25** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**13.55** «Полацк і палачане. Беражоныя Еўфрасінняй». Дакументальны фільм.
**14.25** «Гамлет з Сузака, ці Мамая Кера». Драма (СССР, 1990 г.).
**15.55** Калейдаскоп.
**16.05** «Пад акампанемент настрою». Канцэрт расійскага акцёра, музыканта і спевака Яўгена Дзятлава.
**17.55** «Палюбоўніца з Масквы». Камедыя (Расія, 2001 г.).
**19.00** «Імперыя. Пачатак». Гістарычная драма. Часткі 1-я і 2-я (Расія, 2007 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «АРТіШОК». Музычны гурт «Pe1ikt».
**21.30** «Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх». Прыгодніцкі баявік(СССР, 1974 г.).
**23.05** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Віктар Мацкуноў (Гомель).
**23.40** Калейдаскоп.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**07.50** сэлф.
**08.10** PRO спорт. Навіны.
**08.25** Тэніс. Турнір ВТА. Істборн. Паўфінал.
**10.30** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Паўфінал.
**12.20** Фактар сілы.
**12.55** Піт-стоп.
**13.25** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Дзюдо.
**14.25** Футбол. Беларусбанк - чэмпіянат Беларусі. Белшына Бабруйск - Дынама (Мінск). Прамая трансляцыя.
**16.25** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Бокс. Фінал. Дзюдо. Фінал. Прамая трансляцыя.
**19.25** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Валейбол. Жанчыны. Фінал.
**21.25** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Пляжны футбол. Паўфінал.
**23.50** Тэніс. Турнір ВТА. Істборн. Фінал.
**01.55** Еўрапейскі покерны тур.
**02.45** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**03.00** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Што вывучае навука хімія?
**08.40** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.55** Вынаходлівы Дабрамір, мультсерыял.
**09.05** Ажыятаж вакол Басі, серыял.
**09.35** Мова нанова: Запраўка.
**09.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.20** Людскія справы: Сухоты. Небяспека для кожнага.
**10.55** Форум (ток-шоу): Ці мы талерантныя?
**11.35** Я люблю дэмакратыю. На шляху: Куба без Фідэля, д/ф.
**12.30** Сенсацыі ХХ стагоддзя, серыял: Чырвоная капэла.
**13.25** Намібія. Генацыд Другога Райху, д/ф.
**14.20** Глыбокая вада, серыял.
**15.05** Дробныя круцялі, камедыя.
**16.40** Ізгоі, д/ф.
**17.35** Час гонару, серыял.
**18.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Бітва пад Венай.
**18.55** Наша Родина, д/ф.
**20.40** Аўтаспынам па Беларусі.
**21.00** Студыя «Белсат».
**21.15** Вандроўныя міны м/ф.
**23.10** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**00.00** Студыя «Белсат».
**00.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Паўлюк Быкоўскі і сацыяльныя сеткі.
**00.45** Дэмакратыя. Год нулявы, д/ф.
**01.35** Ваенныя гульні, д/ф: ч. 4.

TV

## 28 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Камедыйная меладрама «Любыя жанчыны Казановы» (Расія). 2 я серыя.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Аб ежы!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Зона Х. Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Скрынка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «Чалавечы фактар» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**18.55** Першыя Еўрапейскія гульні ў Баку-2015. Урачыстая цырымонія закрыцця. Прамая трансляцыя.
**21.20** Галоўны эфір.
**22.15** Навіны надвор'я.
**22.35** Дыялогі аб цывілізацыі.
**23.05** Вострасюжэтная меладрама «Зваротны білет» (Расія).
**00.45** Камедыя «Кухня» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субцітрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Іна Чурыкава.
**10.35** «Фазэнда».
**11.10** Здабытак Рэспублікі.
**13.10** Шматсерыйны фільм «Маскоўская сага».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Музычныя вечары ў Мірскім замку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Вызваленая Еўропа.
**22.00** Музычныя вечары ў Мірскім замку.
**23.15** Што? Дзе? Калі?
**00.25** Фільм «Пракляты шлях».

### СТВ

**06.00** «Студэнты International». Серыял.
**07.25** «Калі ласка, скардзіцеся».
**07.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.10** «Кіно»: «Гран Тарына». ЗША - Германія, 2008г.
**10.10** «Чыстая работа».
**11.00** «Вялікі сняданак» з Ірынай Рамбальскай.
**11.40** «Салдаты 2». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Кіно»: «Школа злодзеяў 2». Італія, 1987г.
**15.30** «Дарагая перадача».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.20** «Ваенная таямніца з Ігарам Пракапенкам».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Кіно»: «Герой яе рамана». Аўстралія, 1999г.
**22.15** «Званая вячэра». Самыя яркія стравы тыдня.
**00.00** «Масква. Дзень і ноч».
**00.50** «Кіно»: «Школа злодзеяў 2». Італія, 1987г.

### Беларусь 2

**06.55** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**08.10** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.00** Я хачу гэта ўбачыць!
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект Алены Даміевай.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Хачу ў тэлевізар!
**12.10** Камедыйны серыял «Мая выдатная няня» (Расія).
**14.10** Рамантычная камедыя «Прыкінься маёй жонкай» (ЗША).
**16.10** Псіхалагічны трылер «Закладніца» (Францыя).
**17.55** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Рэальны свет.
**21.35** Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**21.40** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**23.30** Першыя Еўрапейскія гульні ў Баку-2015.

### Беларусь 3

**07.45** Калейдаскоп.
**07.55** «Імперыя. Пачатак». Гістарычная драма. Часткі 1-я і 2-я (Расія, 2007 г.).
**09.40** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Віктар Мацькуноў (Гомель).
**10.20** «Наперад у мінулае».
**10.45** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**11.40** Калейдаскоп.
**11.50** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм чацвёрты «Чысты лёд». 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**13.25** «Музеі Беларусі». Мастацкая галерэя Міхаіла Савіцкага.
**13.55** «Грані Перамогі». Салюты Перамогі. Дакументальны фільм.
**14.20** Прэм'ера. Беларуска-сербскі тэатральны праект «Белыя журавы». Рэжысёр - Івана Жыган (Сербія), харэаграфія - Бранімір Джурычыч (Сербія).
**15.30** «Камертон». Актрыса, сцэнарыст, рэжысёр Івана Жыган.
**15.55** Калейдаскоп.
**16.05** «Кромвель». Біяграфічная драма (Вялікабрытанія, 1970 г.).
**18.20** «Культпрасвет».
**18.55** «Ніхто, акрамя нас». Ваенная драма (Расія, 2009 г.).
**21.00** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** «Пацалунак Сакрата». Дэтэктыўны серыял. Фільм чацвёрты «Чысты лёд». 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**23.35** «Культпрасвет».
**00.10** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.15** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**07.30** Тэніс. Турнір ВТА. Істборн. Фінал.
**09.30** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку - 2015. Дзюдо.
**10.55** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку - 2015. Валейбол. Мужчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**13.00** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Дзюдо. Фінал. Прамая трансляцыя.
**15.00** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку - 2015. Пляжны футбол. Фінал.
**16.10** Футбол. Беларусбанк - чэмпіянат Беларусі. Белшына Бабруйск - Дынама (Мінск).
**17.55** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку - 2015. Валейбол. Жанчыны. Фінал.
**19.55** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**21.50** Формула-Е. Гран-пры Лондана.
**23.05** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку - 2015. Пляжны футбол. Фінал.
**00.15** Першыя Еўрапейскія гульні. Баку-2015. Вынікі дня.
**00.30** PRO спорт. Навіны.

### Белсат TV

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Фітнес-шмітнес.
**07.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**07.50** Два на два (тэледыскусія): Юрый Варонежцаў і Марат Афанасьеў.
**08.20** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Як вусені ператвараюцца ў матылёў?
**08.30** Вынаходлівы Дабрамір, мультсерыял.
**08.40** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.55** Мова нанова: Мода.
**09.15** Шматкультурная Малдова.
**09.40** 54 % (публіцыстычная праграма): Не замужам = няправільная?
**10.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.25** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Творчая сям'я: выклікі і адказы.
**10.50** Час гонару, серыял.
**11.40** Хірургія Нінтэнда, д/ф, рэж. Бэнжамэн Лейпарт, 2005 г., Бельгія.
**12.05** Уладзімір Пузыня, д/ф.
**12.25** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**13.15** Новенькая, дэтэктыўны серыял.
**14.00** Наша Радзіма, д/ф.
**15.45** Уладзімір Пузыня, д/ф.
**16.05** Дзецi ГУЛагу, д/ф.
**17.00** Вандроўныя міны, м/ф.
**18.50** Вандроўкі па Гарадзеншчыне.
**18.55** Надзея Саўчанка. Наша Надзея, д/ф.
**19.45** Невядомая Беларусь: Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп, д/ф.
**20.25** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**20.45** Загадкі беларускай гісторыі: Жыццё і смерць Рамана Скірмунта.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Леанід Заіка.
**21.15** Скрадзеныя вочы, гіст. драма.
**23.05** Mad Men. Утрапёныя II, серыял.
**23.50** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Дзяніс Марціновіч і опера.
**00.25** Мент, дэтэктыўны серыял.
**01.10** Канцэрт «АВ-ВА-аркестру»: ч. 1.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход. по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________




**$ 150 млн у бюджэце FIFA можна было б выдаткаваць на падтрымку спецыяльных грамадзянскіх праектаў**

# Футбольная перабудова

**У Барселоне адбылася канферэнцыя актывістаў еўрапейскіх грамадзянскіх праектаў, якія працуюць з футбольнай тэматыкай. Удзельнікі мерапрыемства, акрамя ўсяго іншага, думалі, што рабіць з чэмпіянатам свету, які павінен адбыцца ў Расіі ў 2018 годзе. Якія яшчэ пытанні разглядаліся і якія вынікі гэтых збораў? Пра гэта журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае адзін з арганізатараў аўстрыйскі грамадзянскі актывіст Маркус Пірнер.**

***— Падчас канферэнцыі гучаў дастаткова экзатычны для постсавецкіх краін тэрмін «футбольная грамадскасць». Пра што ідзе гутарка?***

— Футбольная грамадскасць — гэта шматлікія грамадзянскія ініцыятывы, якія намагаюцца праз футбол пазбавіць грамадства ад ксенафобіі, гамафобіі, фашызму, дапамагчы нацыянальным меншасцям інтэгравацца ў грамадства. Для нас вельмі важна падтрымліваць і развіваць дэмакратычныя нормы ў краінах, якія прымаюць буйныя футбольныя турніры. Напрыклад, я ўваходжу ў сетку «Футбол супраць расізму ў Еўропе», якую таксама падтрымліваюць міжнародныя футбольныя структуры — FIFA і UEFA. Працей кажучы, мы хочам, каб футбол стаў больш этычны, дапамагаў рабіць нашы грамадствы больш дэмакратычнымі і справядлівымі, а не быў прадметам палітычных гульняў і брудных бізнесу.

***— Што думае футбольная грамадскасць пра апошні буйны карупцыйны скандал у кіраўніцтве FIFA?***

— На нашу думку, гэта лагічны вынік шэрагу тэндэнцый у сучасным футболе, і перш за ўсё новае палітычнае вымярэнне буйных турніраў. Прымаць Кубак свету — гэта вялікі піяр для палітыкаў, якія гатовыя для правядзення турніраў не толькі даваць хабары, аднак таксама браць грошы з сацыяльных фондаў. Мы бачылі, як у той жа Бразіліі закладнікам чэмпіянату свету 2014 года сталі бюджэтныя артыкулы на адукацыю і будаўніцтва сацыяльнага жылля. Адначасова футбол стаў ахвярай камерцыялізацыі: на стадыёны пускаюць скампраметаваныя брэнды, якія маюць вельмі адмоўны імідж, якія нават падтрымлівалі диктатараў, напрыклад, «Брытыш Петроліум». На нашу думку, апарат былога старшыні FIFA Ёзафа Блатэра не ў стане змагацца з новымі выклікамі.

Праўда, гэта тычыцца не толькі футболу. Прыклад таму — Еўрапейскія гульні, якія праходзяць цяпер у Азербайджане — краіне, дзе ў турмах практыкуюцца катаванні. Нягледзячы на крытыку грамадскасці, сёння МАК (Міжнародны алімпійскі камітэт) думае, якой з краін — Кітаю або Казахстану — аддаць правa на правядзенне зімовых алімпійскіх гульняў 2020-га. Як бачым, усё ідзе да таго, што ў выніку Алімпіяду будзе прымаць краіна, дзе з правамі чалавека шмат праблем. На нашу думку, гэта кампраметуе саму ідэю спартовага руху.

***— На канферэнцыі ў Барселоне шмат казалі пра чэмпіянат свету ў Расіі ў 2018-м. Якое рэзюмэ гэтай дыскусіі? Ці не можа чэмпіянат быць перанесены ў іншую краіну?***

— У дыскусіі браў удзел прадстаўнік FIFA, які даў зразумець, што пакуль пытанне пра змену гаспадара турніру не ставіцца. Хутчэй за ўсё, Расія ўсё ж будзе прымаць чэмпіянат. Прычым яна, падаецца, хоча правесці турнір па канонах алімпіяды ў Сочы, калі дзяржава выкарыстала спорт для апраўдання свайго палітычнага курсу. Мы зацікаўленыя, каб футбольнае свята дапамагло развіццю ў Расіі атмасферы талерантнасці і пашырэнню грамадзянскіх свабодаў. На жаль, сітуацыя пакуль адваротная. Хутчэй за ўсё, існуючы візавы рэжым паміж Расіяй і Еўропай будзе выкарыстаны для таго, каб не дапусціць у краіну замежных актывістаў, перш за ўсё тых, хто змагаецца за правы сексуальных меншасцяў. Думаю, што спробы грамадскасці неяк актывізавацца напярэдадні турніру будуць разглядацца расійскімі ўладамі як нейкая каварная спроба дысідэнтаў легалізавацца пад прыкрыццём футболу. У любым выпадку, мы чакаем ліпеня, калі расійскі бок агучыць свае думкі пра фармат удзелу грамадскасці ў чэмпіянаце. Пасля гэта будзем рабіць высновы.

***— Якія, на вашу думку, рэформы FIFA дапамогуць пераўтварыць футбол у праваднiка прагрэсіўных ідэяў?***

— На дадзеным этапе цалкам рэальна зрабіць у складзе кіраўніцтва Федэрацыі квоту для прадстаўнікоў грамадскасці, абіраць якіх яна зможа на нейкім форуме. Другая цалкам рэальная мера — гэта стварэнне ў бюджэце FIFA, што складае каля 150 мільёнаў долараў, асобнага спецыяльнага артыкулу, які будзе ісці на падтрымку грамадзянскіх праектаў. Прынамсі мы думаем, што такі артыкул можна стварыць у бюджэце, які будзе сфармаваны для правядзення чэмпіянату свету. У такім выпадку гаспадары Кубка свету будуць вымушаны пашырыць рамкі свабод для трэцяга сектара. Таксама хачу сказаць, што зараз вельмі важны момант у гісторыі спорту. Нам патрэбныя рэальныя крокі, каб пачаліся рэформы. Вышэй я казаў, што футбол набыў палітычнае вымярэнне, аднак гэта значыць, што праз футбол людзі таксама могуць рабіць палітыку.

***— Што будзе, калі кансерватыўнай фракцыі той жа FIFA атрымаецца захаваць існуючую мадэль глабальнай футбольнай інфраструктуры?***

— Думаю, што ў такім выпадку мы будзем жыць ад аднаго карупцыйнага скандалу да наступнага. І самы буйны скандал нас, безумоўна, чакае, калі чэмпіянат свету па цяперашняй схеме будзе прымаць Катар у 2022 годзе. Спецыялісты кажуць, што ў гэтай краіне зараз калі 5 тысяч чалавек працуюць у статусе сапраўдных рабоў. Не выключана, што рабская праца будзе выкарыстаная падчас будаўніцтва спартовых аб'ектаў. Скандал такога маштабу не пакіне кансерватарам у FIFA ніякіх шансаў. Калі бомба не выбухне ў Катары, то гэта будзе мець месца трошкі пазней. Мяркую, што рэформы ў футболе проста непазбежныя.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У Беларусі стыхійна ўзнікаюць забастоўкі, удзельнікі якіх не вылучаюць палітычных патрабаванняў. Працоўныя заводаў хочуць толькі аднаго — атрымаць зарплату. Працадаўцы не заўсёды могуць задаволіць гэта патрабаванне. Прычына — у скарачэнні абёмаў продажаў і росце неплацяжоў. Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што разглядае цяжкасці, якія склаліся на прадпрыемствах, як часовыя, якія працягнуцца максімум да восені, а таму іх трэба проста перажыць. Праўда, мясцовыя аналітыкі кажуць, што самі ўлады ў гэта не вераць. Перанос прэзідэнцкіх выбараў на больш ранні тэрмін яны лічаць доказам гэтага.

**«Независимая газета» (Расія)**

Упершыню за ўсю гісторыю прэзідэнцкіх выбараў электаральны год характарызуецца крызісам нацыянальнай эканомікі. Такім чынам кіруючая эліта пазбаўленая магчымасці «пагуляць у папулізм» — ініцыяваць істотнае павышэнне ўзроўню заробкаў і сацыяльных выплат. Выбары праходзяць на фоне магутнага знешнепалітычнага крызісу, які па сваіх выніках можа змяніць баланс сіл у рэгіёне. Агрэсіўная пазіцыя Расійскай Федэрацыі нясе прамую пагрозу правядзенню выбараў «у беларускай стылі». Такое спалучэнне ўнутраных і знешніх фактараў стварае ўнікальную сітуацыю для змены ўнутранага і знешнепалітычнага курсаў Беларусі.

**«Хвиля» (Украіна)**

Змена даты галасавання наўрад ці звязана з нейкімі сур'ёзнымі пагрозамі дзеючай уладзе з боку апазіцыі або саміх народных мас. Тут аднадушныя ўсе — эксперты, актывісты, апазіцыянеры — Майдан ва Украіне і падзеі пасля яго настолькі ўразілі беларусаў, што аб масавых пратэстах ніхто і не падумвае. Тады, як можна заўважыць па выніках дыскусій у сацыяльных сетках, прычынай становіцца эканоміка. Напрыклад, у інтэрнэце папулярны жарт пра прызначаную на наступны дзень пасля выбараў дэвальвацыю, што цалкам лагічна з-за некалькіх абвалаў рубля ў папярэднія гады пры пастаянных запэўненнях улады напярэдадні, што ў гэты раз ніякай валютнай ліхаманкі не прадбачыцца.

**«RFI» (Францыя)**

Старшыні Дзяржаўнага памежнага камітэта, міністрам абароны і ўнутраных спраў Беларусі 2 чэрвеня ўручана распараджэнне кіраўніка дзяржавы аб праверцы сістэмы ўзмацнення аховы дзяржаўнай мяжы на паўднёвым напрамку і тэрытарыяльнай абароны Гомельскай вобласці. Пра гэта паведамляюць беларускія СМІ. Кантрабанда была і будзе. Іншая справа, якія формы яна прымае. Калі гэта свайго роду дробная прыработка для адных і асноўны даход для нямногіх іншых — адна справа. Калі «кантрабас» становіцца адзінай сур'ёзнай крыніцай даходу для цэлага рэгіёну — справа зусім іншая. З восені мінулага года «нефармальныя гандлёвыя адносіны» паміж Беларуссю і Украінай змяніліся карэнным чынам. Калі раней танныя і якасныя прадукты везлі з Беларусі на Украіну, то зараз танныя, але сумнеўнай якасці, вязуць ужо ў Беларусь.

**«Однако» (Расія)**

З'яўленне адзінай праваслаўнай царквы ва Украіне аўтаматычна прывядзе да перадзелу сфер уплыву ў праваслаўным свеце. Менавіта таму Крэмль рабіў і робіць усё магчымае для недапушчэння прызнання любой іншай праваслаўнай царквы ва Украіне, акрамя свайго ўласнага структурнага падраздзялення — УПЦ МП. Калі яна «страціць Украіну», то наступнымі будуць Беларусь і Малдова. Лукашэнка яшчэ 3 гады таму казаў пра неабходнасць уласнай памеснай царквы. У адказ Крэмль дасылаў кіраваць Беларускім экзархатам аднаго з самых рэакцыйных іерархаў, прыхільніка «рускага свету», ураджэнца Караганды, былога слесара, Панамарова Георгія Васільевіча (мітрапаліта Паўла). Лукашэнка ўзяў паўзу. Але гэта не значыць, што ён не скарыстаецца выгаднай сітуацыяй пры паслабленні РПЦ.

**«Политика» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЯПОНІЯ. Перамагла hafu



Японцы ў шоку ад перамогі Арыяны Міямота (Ariana Miyamoto) у вельмі прэстыжным конкурсе прыгажосці Miss Universe Japan. Справа ў тым, што 21-гадовая Арыяна — толькі напалову японка. Яе бацька — афраамерыканскі вайсковы матрос, які заключыў шлюб з японкай. Такім чынам, Арыяна належыць да сацыяльнай катэгорыі hafu — напалову чорны і напалову японец. Прадстаўнікоў hafu ва ўсёй Японіі вельмі мала, а стаўленне да іх у грамадстве не вельмі добрае. Гэта можна лёгка зразумець па інтэрв'ю самой прыгажуні, якая ўзгадвае, што настаўнікі ў школе адмаўляліся ад кантактаў з дзяўчынкай, паколькі нават датыканне да чорнай скуры разглядалася як нешта супярэчлівае японскай маралі. Японская Miss Universe таксама распавядае, што доўгі час не магла прабачыць маці кахання з афраамерыканцам і была вельмі злой на яе. Толькі пасля візіту на радзіму бацькі у ЗША, яна зразумела, што чорная скура — гэта не знак прыналежнасці да маргінальнай касты. Менавіта пасля туру па Штатах у чарнаскурай японкі, па яе словах, нарадзілася ідэя давесці сваю годнасць hafu праз удзел у конкурсе Miss Universe. Праўда, сама Арыяна прызнае, што, нягледзячы на перамогу ў конкурсе, барацьба са стэрэатыпамі ў японскай культуры будзе доўгай.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. «Рэзідэнт» супраць «кандытара»

Пажар на нафтавай базе пад Кіевам нечакана перарос у буйны палітычны канфлікт паміж прэзідэнтам і Валянцінам Налівайчанкам, кіраўніком Службы бяспекі Украіны (СБУ). Апошні сцвярджае, што намеснік пракурора, якога прызначае гарант, «крышаваў» гэту базу, плюс у дадатак супрацоўнічаў з сепаратыстамі. У адказ Парашэнка паставіў пытанне пра адстаўку Налівайчанкі, намагаючыся выставіць апошняга як чалавека алігарха Фірташа. У прынцыпе, гэта ўсё можна было разглядаць як эпізод алігархічных войнаў, якія даўно сталі часткай украінскіх рэалій, калі б не адзін нюанс. Налівайчанка лічыцца галоўным лабістам амерыканскіх інтарэсаў на Украіне (адсюль мянушка «рэзідэнт»). Таксама звяртаюць увагу на тое, што кіраўнік СБУ атакаваў Парашэнку пасля рэзанананснай заявы пасла ЗША Пайета, які канстатаваў хранічную няздольнасць украінскага кіраўніцтва змагацца з алігархатам. Усё гэты схіліла некаторых экспертаў казаць пра тое, то ЗША будуць дамагацца адстаўкі Парашэнкі, якога называюць «кандытар». Цікава, што спроба зняць Налівайчанку выклікала бунт у шэрагах фракцыі блока Парашэнкі. Нечакана для ўсіх дэпутацкая група ад партыі «Удар» заявіла аб аўтаноміі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### АЎСТРЫЯ. Першы ў гісторыі ўрад эсдэкаў і ўльтраправых

У аўстрыйскай правінцыі Бургенланд зарэгістраваны беспрэцэдэнтны выпадак, калі партыя сацыял-дэмакратаў (SPO) і правыя папулісты з мясцовай «Партыі свабоды» (FPO) дамовіліся аб стварэнні агульнай кааліцыі. Такі фармат ураду супярэчыць не толькі гістарычнай традыцыі сацыял-дэмакратыі, якая была адной з ахвяр нацызму, аднак і прынцыпу так званага «санітарнага кардону», які эсдэкі прынялі 30 гадоў таму. Той прынцып патрабаваў ніколі не ўваходзіць ва ўрадавыя кааліцыі з FPO. Парушэнне прынцыпу выклікала бунт моладзевай секцыі сацыял-дэмакратаў, якіх падтрымалі яўрэйскія арганізацыі і грамады імігрантаў. Аднак, па словах кіраўніка партыі Вернера Файмана, блок з правымі — выключна часовы і тактычны крок. Маўляў, партыі пасля нядаўніх выбараў трэба захаваць пазіцыі ва ўладзе ў Бургенландзе, якім яна дасюль доўгі час кіравала. Лідары SPO таксама абяцаюць не парушаць прынцып санітарнага кардону на федэральным узроўні. Хаця левае крыло эсдэкаў і моладзевая секцыя бунтуе, магчыма, эксперымент у Бургерландзе доўга не працягнецца. FPO вядзе настолькі агрэсіўную прапагандысцкую кампанію супраць імігрантаў, што гэта гарантуе канфрантацыю паміж сябрамі кааліцыі.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. Знак якасці для культуры

Сумнавядомы сваімі кансерватыўнымі і прапуцінскімі поглядамі дэпутат заканадаўчага сходу Санкт-Пецярбурга Віталь Мілонаў накіраваў зварот у Міністэрства культуры РФ з прапановай распрацаваць «Канцэпцыю па абароне айчыннай інфармацыйнай прасторы». Мяркуецца, што творы, якія адпавядаюць традыцыйным каштоўнасцям, атрымаюць знак якасці, а «шкодныя» творы — не. Гэта, як лічыць ініцыятар закону, і будзе арыенцірам для спажыўцоў. Па словах Мілонава, цяпер практычна кожны твор, якое робіцца на Захадзе, працуе на тое, каб разбурыць традыцыйныя каштоўнасці, у тым ліку і мазгі расіянаў. У Сінадальным інфармацыйным аддзеле Рускай праваслаўнай царквы ўжо ў цэлым падтрымалі ідэю дэпутата, хаця яе схема рэалізацыі пакуль не зразумелая.

**Паводле расійскай прэсы**

# Арыі ў космасе

Алег НОВІКАЎ



**Урад Індыі патрабуе ад мясцовых вучоных штудзіраваць тэксты старажытных арыйскіх Ведаў, якія, быццам, хаваюць сакрэты фантастычных навуковых прарываў.**

Мы ўжо пісалі пра арыгінальныя ўчынкі цяперашняга ўраду Індыі, якім кіруе Нарэндра Модзі — індускі традыцыяналіст, лідар індускай нацыянальнай партыі «Бхаратыя джаната парты» (BJP). Гутарка тады ішла пра заснаванае ў мінулым годзе міністэрства ёгі, якое павінна прапагандаваць традыцыйную індыйскую медыцыну, у тым ліку і практыку ёгі. Старадаўнія рэцэпты і розныя гімнастычныя практыкі, на думку ідэолагаў палітычнага індуізму, павінны ў хуткай будучыні пацясніць звычайныя медыцынскія методыкі лячэння хвароб.

Цяпер індускімі нацыяналістамі зроблены наступны крок у рэстаўрацыі нацыянальнай традыцыі. Яшчэ на пачатку года ў рамках святкавання 102-й гадавіны Асацыяцыі індыйскіх навукоўцаў прадстаўнік ураду заклікаў вучоных штудзіраваць Веды — зборнік старажытных сакральных тэкстаў індуізму на санскрыце.

Індуісцкая рэлігійная традыцыя лічыць Веды тэкстамі, якія былі створаныя не чалавекам, а багамі. Быццам, тыя тэксты багі перадалі чалавецтву праз святых мудрацоў. Большасць навукоўцаў сыходзяцца на тым, што першыя Веды былі створаныя каля XVI стагоддзя да нашай эры, а на працягу многіх стагоддзяў існавала вусная традыцыя іх перадачы. З-за недаўгавечнасці матэрыялу, на якім запісваліся Веды (для гэтага выкарыстоўвалася драўняная кара або пальмавыя лісты) узрост манускрыптаў, якія дайшлі да нас, не перавышае некалькіх сотняў гадоў. Найстаражытныя манускрыпты «Рыгведы» — адна з частак Ведаў — датуюцца XI стагоддзем. Хаця жанрава Веды — гэта зборнік мантраў, якія прызначаліся для рытуалу ахвярапрынашэнняў у часы панавання ведыйскай рэлігіі, некаторую інфармацыю і іх пра тагачасныя рэаліі атрымаць можна.

Напрыклад, на думку Нарэндры Модзі і яго міністраў, у старадаўніх Ведах утрымліваюцца сакрэты самых перадавых тэхналогій. Гэта следства таго, што старажытныя арыі былі не толькі самай духоўнай нацыяй, аднак таксама абышлі ўсе тагачасныя народы ў тэхнічным прагрэсе. Каля сямі тысяч гадоў таму яны мелі не толькі авіяцыю, аднак і апараты, якія былі здольныя бараздзіць касмічную прастору. Таксама старадаўнія індусы мелі механізмы, якія ў наш час называюць радары.

Нехта капітан Ананд Бодас (captain Anand J Bodas), галоўны прапагандыст кампаніі па вывучэнні навукоўцамі Ведаў, нават вылічыў, памеры лятальных апаратаў арыеў. У сярэднім касмічны карабель быў даўжынёй каля 60 метраў, а на іх былі ўсталяваныя 40 матораў.

На закліках чыноўнікі вывучаць Веды справа не спынілася. Індыйскім універсітэтам была дасланая прапанова арганізаваць на месцах канферэнцыі навуковай грамадскасці, прысвечаныя даследаванню Ведаў. Ужо абвешчана, што ў хуткім часе на гэтую тэму пад эгідай ураду пройдзе агульнанацыянальны кангрэс.

Наколькі сапраўды старажытныя манускрыпты здольныя дапамагаць сучаснай навуцы? Сябры індыйскага ўраду і асобы накшталт Бодаса не маюць сумневаў, што ў тых тэкстах ёсць карысная інфармацыя. У дадатак яны прыводзяць статыстыку. На цяперашні момант на старонках Ведаў знойдзена цэлых 97 рэферэнцыяй пра авія- і касмічныя палёты. Калі верыць аматарам Ведаў, у тэкстах ёсць нават апісанне касцюма арыйскага астранаўта і падрабязнае апісанне іх меню, у аснове якога малочныя прадукты. Таксама, на іх думку, у старажытных рукапісах хаваюцца сакрэты сплаваў металаў, з якіх арыі рабілі касмічныя караблі. Цяперашнім індыйскім вучоным застаецца толькі адрадзіць былыя напрацоўкі.

**У Ведах утрымліваюцца сакрэты самых перадавых тэхналогій, таму што арыі абышлі ўсе тагачасныя народы ў тэхнічным прагрэсе**

Дарэчы, у ходзе цяперашняй кампаніі па даследаванні Ведаў там знайшлі шмат цікавага і раней не вядомага. Напрыклад, сцвярджаецца, што ў рукапісах прысутнічае інфармацыя, якая дазваляе казаць, што славутую тэарэму Піфагора таксама прыдумалі індусы.

Падобныя сенсацыі, якія хутчэй цягнуць на загалоўкі жоўтай прэсы, імкліва стварылі рух апанентаў «арыізацыі» індыйскай навукі. Лідар напрамку — Рам Гандхіраман (Dr. Ram Prasad Gandhiraman), супрацоўнік амерыканскага касмічнага агенцтва NASA, індус па нацыянальнасці. Рам арганізаваў сярод вучоных збор подпісаў супраць афіцыйнага курсу «антынавуковай інфільтрацыі ў акадэмічныя праграмы з дапамогай палітыкі». Па яго словах, калі вучоныя будуць спакойна глядзець на антынавуковыя выбрыкі шавіністаў з «Бхаратыя джаната парты», у краіне абарвецца навуковая традыцыя, у выніку чаго будуць страчаныя цэлыя генерацыі індускіх навукоўцаў. Зараз петыцыю падпісалі каля 200 індусаў, якія працуюць у розных акадэмічных праграмах па ўсім свеце.




Рам Гандхіраман

Мяркуючы па ўсім, Рам Гандхіраман мае рацыю. Індуская чыноўнікі маюць намер сур'ёзнай рэвізіі навукі. На днях Модзі наведаў адзін са шпіталяў і заявіў, што ў старажытнай Індыі дакладна рабілі пластычныя і генетычныя аперацыі. Аргументуючы сваю пазіцыю, ён узгадаў аднаго з багоў арыйскага пантэону, які паводле міфу быў народжаны не з жаночага ўлоння. У штаце Ута-Прадзеш ужо былі спробы выкладання ў мясцовых школах такога прадмету, як «ведычная матэматыка». Усё гэта адбываецца на фоне адпаведных праваных паправак. У Бамбеі плануецца ўвесці крымінальную адказнасць за забойства сакральных у індуізме жывёл. Тых, хто парушыў норму, чакае 5 гадоў турмы. Па словах ініцыятара папраўкі, гэты законапраект праз сон яму даслалі багі.

Пакуль, праўда, усе ініцыятывы індуістаў не набылі сур'ёзных маштабаў. Магчыма, таму рэакцыя публікі на навіны пра арыяў-касманаўтаў у большасці іранічная. У індыйскай прэсе смяюцца, што хутка ў апараце ўраду Індыі з'явіцца дэпартамент або нават міністэрства, якое зоймецца прапагандай на дзяржаўным узроўні камасутры.

# Малдова: Рэванш не адбыўся

Алег НОВІКАЎ



**Мясцовыя выбары ў Малдове ў міжнароднай прэсе разглядаліся як своеасаблівы тэст на праеўрапейскі курс Малдовы. Малдова, здаецца, гэты тэст прайшла.**

Прадстаўнік прарасійскіх сілаў ад партыі сацыялістаў Зінаіда Грэчаный, якая разглядалася як фаварыт у Кішынёве, заняла другое месца, саступіўшы дзеючаму мэру Дарыну Кіртаакэ. Праўда, у Бельцах (другім буйным горадзе Малдовы) кіраваць зараз будзе Рыната Усатый, які лічыцца крэатурай Крамля.

Сітуацыя напярэдадні выбараў ускладнялася тым, што па краіне гулялі чуткі пра падрыхтоўку Майдану. «З'явілася шмат размоў пра майданаўскі сцэнар. Маўляў, пасля таго, як кандыдат сацыялістаў стане мэрам у Кішынёве, пачнуцца студэнцкія акцыі пратэсту. Хадзілі чуткі, што, у сваю чаргу, у Прыднястроўі рыхтуюцца вайсковыя часткі, якія павінны ў пашырку хваляванняў у Кішынёве падтрымаць абранага мэра. Не думаю, што справа дойдзе да падобных правакацый. Прынамсі, тыя ж сацыялісты падкрэсліваюць, што з'яўляюцца прыхільнікамі еўрапейскага вектару і зацікаўленыя ў пашырэнні выключна эканамічнай кааперацыі з Масквой. Іншымі словамі, у выпадку спробаў дэстабілізацыі яны будуць, хутчэй, спрабаваць шукаць падтрымку ў Еўропе, а не ў Расіі»,— так напярэдадні выбараў пракаментаваў сітуацыю малдаўскі грамадскі актывіст Оцел Васіле

По словах Васіле, шмат у чым такія плёткі стварае непрадказальная сітуацыя ў суседняй Украіне. Напрыклад, прызначэнне на пасаду адэскага губернатара Міхаіла Саакашвілі, які мае вопыт адміністратара ў час вайны, шмат хто лічыць фазай падрыхтоўкі да адкрыцця другога фронту (асабліва з улікам намераў Кіева заблакаваць транзіт расійскіх войскаў у Прыднястроўе).

«На маю думку, характар падзей ва Украіне абсалютна непрадказальны — хто яшчэ год таму мог уявіць сабе, што Расія захопіць частку гэтай краіны? І гэта дало волю народнай фантазіі. Ходзяць нават чуткі, што Бельцы ў выпадку перамогі Рыната Усатый будуць патрабаваць ад Кішынёва статуса аўтаномнай рэспублікі. Я думаю, што Саакашвілі стаў губернатарам толькі таму, што Парашэнку ў Адэсе была патрэбная фігура, аўтарытэт якой не мог асПрэчыць яго канкурэнт, алігарх Каламойскі, які раней кантраляваў гэты горад. Пакуль мілітарызацыі ў яго ўчынках няма», — кажа малдаўскі актывіст.

Оцел Васіле таксама адзначыў, што, за выключэннем Кішынёва, сітуацыя на месцах дастаткова спакойная, а менавіта вынікі галасавання на месцах будуць вызначыць агульны вынік. Па сутнасці, так і адбылося. Нягледзячы на добры вынік прарасійскіх сілаў у сталіцы і Бельцах, большасць мэрый пакуль што дасталася партыям, якія ўваходзяць ва ўрадавы «Альянс за еўрапейскую інтэграцыю».

**45**

**дзён будзе ў парламента, каб вызначыцца з кандыдатам на пасаду прэм'ера**

Праеўрапейскія партыі перамаглі ў 348 населеных пунктах, у той час як прарасійскія — у 56 населеных пунктах, а незалежныя кандыдаты — у 34-х. Другі тур адбудзецца ў 458 населеных пунктах, дзе ніводзін з кандыдатаў не набраў больш за 50 працэнтаў галасоў.

Выбары 14 чэрвеня сталі рэквіемам па партыі камуністаў, якая згубіла давер у Маскве і пачала фліртаваць з малдаўскім алігархатам, які падтрымлівае «Альянс за еўрапейскую інтэграцыю». Камуністы атрымалі толькі два месцы ў мэрыі Кішынёва. Уладзімір Варонін — лідар камуністаў, каб не згубіць твар, заявіў, што прычына ўсяму — спякота, якая, быццам, кепска ўплывае на выбарчы энтузіязм камуністычнага выбаршчыка.

Сціплыя вынікі апазіцыі прымусілі прарасійскіх палітолагаў зрушыць акцэнты ў сваіх каментарах. Цяпер яны звяртаюць увагу на кантраст палітычных сімпатый на вёсцы і ў буйных гарадах. Калі верыць некаторым расійскім экспертам, гэта з часам прывядзе да фактычнага падзелу краіны.

Сцэнарысты хуткага апакаліпсіса праеўрапейскага курсу Малдовы таксама чэрпаюць натхненне ў тым, што 16 чэрвеня пайшоў у адстаўку малдаўскі ўрад — следства адстаўкі прэм'ера Кірыла Габурыча ў сувязі з пытаннямі аб сапраўднасці яго дыплома аб адукацыі. Цяпер парламенцкая большасць павінна вызначыцца з кандыдатурай на пасаду кіраўніка ўрада, аднак тую большасць яшчэ трэба стварыць. Для гэтага ў парламента будзе 45 дзён. Інакш краіну чакаюць датэрміновыя выбары.

Хаця сфармаваць урад будзе няпроста, у тым, што кааліцыя паўстане на базе партый праўрадавага «Альянсу за еўрапейскую інтэграцыю», большасць аналітыкаў не сумняваюцца. Па-першае, Еўропа, якая не зацікаўленая ў дэстабілізацыі Малдовы, мае сродкі ціску на амбіцыйных палітыкаў. Па-другое, патэнцыйна кааліцыю могуць падтрымаць камуністы, якія, як адзначалася вышэй, моцна пасварыліся з Масквой.

Галоўнымі фаварытамі на пасаду прэм'ера называюць «малдоўскага Саакашвілі», цяперашняга кішынёўскага мэра, ліберала Дарына Кіртаакэ (калі Кіртаакэ не стане мэрам, лібералы могуць звязаць свой удзел у кааліцыі з прызначэннем яго на пасаду кіраўніка ўрада). Магчымай кандыдатурай з'яўляецца таксама спікер Андрыян Канду, і не выключана вяртанне ў прэм'ерскае крэсла ліберал-дэмакрата Юрыя Лянкэ.

Можна прагназаваць, што цяперашняя напружанасць у краіне пойдзе на спад пасля другога туру мясцовых выбараў 28 чэрвеня. Праўда, трэба будзе яшчэ перажыць гэты дзень. Справа ў тым, што гэтая дата сімвалічная для абодвух кандыдатаў на пасаду мэра Кішынёва. 28 чэрвеня 1940 года, адпаведна пакту Молатава — Рыбентропа, Чырвоная Армія захапіла Малдову, якая належала на той час Румыніі. Таму для Партыі сацыялістаў 28 чэрвеня — дзень вызвалення Малдовы ад румынскай акупацыі. У той жа час для лібералаў гэты дзень — кропка адліку савецкай акупацыі.

Праўда, Оцел Васіле асцярожна ставіцца да думкі пра тое, што тэма інкарпарацыі Румыніі здольная мабілізаваць як прыхільнікаў, так і праціўнікаў гэтага праекту. «Хутчэй, гэта гульня на нервах прыхільнікаў еўразійскай інтэграцыі. Пакуль што ніякай канкрэтыкі ў лозунгах за ўнію з Румыніяй няма. Дастаткова сказаць, што ў самой Румыніі гэта тэма агучваецца час ад часу. Некаторыя палітыкі выказваюць такую ідэю, аднак гэта хутчэй самапіяр».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Яраслаў Качыньскі



Лідар польскай кансерватыўнай партыі «Права і справядлівасць» (PiS) наведаў Мінск-Мазавецкі, каб прыняць удзел у адкрыцці тут помніка свайму брату Леху Качыньскаму, які, як вядома, загінуў у авіякатастрофе пад Смаленскам у красавіку 2010 года. Гэта не першы помнік былому прэзідэнту (першы быў адчынены ўжо на 20-ты дзень пасля смаленскай катастрофы). Тым не менш навіна з Мінска-Мазавецкага выклікала інтарэс, паколькі Яраслаў — без пяці хвілін наступны прэм'ер Польшчы. Польскае грамадства вельмі крытычна адрэагавала на апошнія крокі прэм'ера Евы Копач («Грамадзянская платформа»), якая замяніла блок міністраў у сваім кабінеце — следства скандалу пра праслухванне апазіцы. Аднак ракіроўка не дапамагла. На хвалі расчаравання рэйтынг «Грамадзянскай платформы» прасеў да 19 працэнтаў, у той час як папулярнасць PiS узнялася амаль да 30 працэнтаў. Левыя і лібералы лічаць, што пасля перамогі PiS практычна кожная камуна будзе вымушаная манументальна ўшанаваць Леха Качыньскага. Хутчэй за ўсё, зменіцца і цэнтр Варшавы. Перад прэзідэнцкім палацам у Варшаве ў 2010 годзе знаходзіўся лагер тых, хто пакутаваў па ахвярах катастрофы. Праз нейкі час урад прыбраў крыж, які застаўся ад лагера, што выклікала сярод кансерватараў ідэю стварыць у выпадку прыходу да ўлады якраз насупраць палацу помнік ахвярам Смаленску.

### Уладзімір Бойка



Самы буйны ў гісторыі незалежнай Украіны «чырвоны дырэктар», які памёр 10 чэрвеня на 77-м годзе жыцця, яшчэ пры жыцці стаў чалавекам-легендай. Ён у свой час выратаваў ад развалу марыупальскі металургічны камбінат імя Ільіча, на які калісьці прыйшоў працаваць. У незалежнай Украіне Бойка дабіўся ад прэзідэнта Краўчука, каб камбінат не прыватызавалі. Затое спецыяльным рашэннем прэзідэнта быў створаны незвычайны юрыдычны суб'ект — акцыянернае таварыства «Ільіч-Сталь», якое атрымала ў арэнду комплекс завода з правам выкупу часткі акцый. На сярэдзіну 2000-х гадоў камбінат, які юрыдычна нагадваў своеасаблівы сацыялістычны кааператыў, аброс няпрофільным бізнесам: сельская гаспадарка, гандаль, авіяперавозкі, вытворчасць сельгастэхнікі. Тут працавала каля 100 000 чалавек. У рамках агульнанацыянальнага праекта «Вялікія ўкраінцы» па выніках галасавання Бойка нават стаў адным з нешматлікіх сучаснікаў, якія ўвайшлі ў топ-100, заняўшы 50-е месца (2008). Але Бойка, які заўсёды падтрымліваў Сацпартыю Аляксандра Мароза і дэманстратыўна паліў выключна «Прыму», вядомы яшчэ і тым, што раптам забыўся пра свае левыя погляды, зрабіў з камбіната звычайнае адкрытае акцыянернае таварыства, перапісаўшы 40 працэнтаў яго акцыяў на сябе. Новы статус шмат у чым дазволіў Рынату Ахметаву, за якім стаяла данецкая мафія, правесці класічны рэйдарскі захоп камбіната. Апошнія гады Бойка працягваў мадэрнізаваць родны завод, саўладальнікам-мінарытарыем якога фармальна заставаўся.

### Сегален Руаяль



Міністр экалогіі французскага сацыялістычнага ўраду выклікала канфлікт паміж Францыяй і Італіяй, заклікаўшы французаў не ўжываць шакаладную пасту «Nutella». На думку палітыка, «Nutella» не толькі шкодзіць здароўю, аднак і разбурае экалогію. Цяжка сказаць, ці будзе заклік міністра мець рэзананс у Францыі, а вось у Італіі, дзе знаходзіцца галоўны офіс кампаніі, яе словы шмат каму не спадабаліся. Найбольш гучна адрэагаваў італьянскі міністр экалогіі Джан Лука Галецці (Gian Luca Galletti), які запатрабаваў ад французскага калегі «пакінуць італьянскія прадукты ў спакоі». Яшчэ далей пайшоў адзін з чальцоў камісіі па аграрных пытаннях італьянскага парламенту. На яго думку, французскі ўрад павінен прынесці афіцыйнае прабачэнне за «атаку на італьянскі прадукт». Нягледзячы на жорсткую рэакцыю італьянскіх афіцыйных колаў, думаецца, пераможцам у гэтай вайне стане Францыя. Пытанне адпаведнасці шакаладнай пасты крытэрыям здаровага прадукту не ў першы раз уздымаецца ў Еўропе. Акрамя таго, Nutella сярод часткі італьянскіх палітыкаў лічыцца прадуктам, які дыскрэдытуе італьянскую кухню.

# Гэнік Лойка: Я не хацеў, каб усё было ціха

Не ведаю, як іншым, а мне ўявіць скульптара Гэніка Лойку без бел-чырвона-белай стужкі на галаве вельмі цяжка, таму адно з першых пытанняў і было: «Навошта?»

Аказалася, па-першае, так лягчэй спраўляцца з доўгімі валасамі, якія час ад часу лезуць у вочы. Па-другое, так здалёк бачная яго прыналежнасць да беларускіх нацыяналістаў. А нацыяналістам (чытай, сапраўдным беларусам) ён стаў з юнацтва. Вось што расказаў пра сябе сам Гэнік Лойка.

**Аляксандр Тамковіч**



### Пачатак бунтарства

На мой погляд, пачынаць трэба не з пашпартнай даты народзінаў, то бок 9 сакавіка 1962 года, а з таго моманту, калі я стаў нацыяналістам, дзякуючы настаўніку Генадзю Генадзевічу Сокалаву-Кубаю. Ён пачаў выкладаць у мастацкай школе, якую мы называлі Парнатам, з 1977 года.

Ён выкладаў гісторыю мастацтваў. З кожным выпускным класам ён займаўся пазаўрочна, прыходзіў па вечарах у майстэрню, і яны падоўгу пра нейкія рэчы размаўлялі. На трэці год настала чарга нашага класа. Урокі ў яго праходзілі вельмі арыгінальна.

Напрыклад, настаўнік піша на дошцы шэраг датаў, накшталт 1410 ці 1514. Для нас гэта пустыя лічбы. Максімум, што маглі дапусціць: «Можа, гэта звязана з Іванам Жахлівым?» Генадзь Генадзевіч загадкава пасмяяўся, а потым цэлы год вучыў: «Паглядзіце, як вас абалваньваюць — у вашых галовах суцэльная Масква. Вам пастаянна талдычаць пра «русское». Калі чалавеку ўвесь час казаць, што ён свіння, то той зарохкае. Сбросьте з ушей развесистую клюкву». Урэшце вучні так ведалі родную гісторыю, што маглі назваць кожную харугву Грунвальдскай бітвы.

На многае расплюшчыў вочы. Бацькоў гэта крыху насцярожвала, але нашу прагу пошуку праўды было ўжо не спыніць.

У Парнаце была традыцыя. Тройчы вучням ладзілі вандроўныя паездкі — Кіеў, Масква, Ленінград. Паездкі ладзіліся ў храналагічным парадку, таму для выпускнога класа якраз надыходзіла чарга «гораду на Няве», аднак Сакалоў-Кубай нас павёз у Вільню, што было значна бліжэй для беларусаў.

Расказаў там шмат цікавага, а калі нехта спытаў наконт валодання беларускай мовай, без праблем пачаў размаўляць на ёй. Ды так прыгожа, што для многіх (па-добраму) гэта стала сапраўдным шокам. Асабліва таму, што гучала мова не з нейкага абстрактнага радыё, а з вуснаў жывога чалавека.

Менавіта тады ён сказаў, што летам у Вільні адбудзецца спеўны фэст, які праходзіць кожныя пяць гадоў. Мы паехалі і на яго, і былі літаральна ўражаныя кольказцю нацыянальных строяў, і тым, што кожны з іх абавязкова адрозніваецца ад іншых.

Аказалася, шмат тых строяў шылі ў Маладзечна, бо Літва не спраўлялася з замовамі.

Як гэта прыгожа! Людзі ідуць і спяваюць! І ніхто іх не прымушае!

На жаль, неўзабаве Генадзя Генадзевіча з выкладчыкаў звольнілі. Начальству не спадабалася яго шчырая любоў да ўсяго нацыянальнага.

Аднак крыху вернемся да дзяцінства.

Мае бацькі — простыя сяляне. Тату звалі Станіславам Зыгмунтавічам, а маму Ганнай Міхайлаўнай Маўдук. Гэта яе дзявочае прозвішча.

Родная вёска — Мікелеўшчына, Мастоўскага раёна Гарадзенскай вобласці. У нашай сям'і расло пяцёра дзяцей. Я сярэдні. Ясь і Ядзя — старэйшыя. Валя і Стась — малодшыя.

**Дзесяць год на пленэрах я пагаджаўся на нейкія моўныя кампрамісы. І што? Прывяла наша прыгожая скульптурная творчасць да росту цікавасці да беларускай мовы?**

Па пашпарце мяне таксама завуць Генадзем, але ў штодзённым жыцці — Гэнікам. Так гучыць больш па-нашаму.

Падчас вучобы ў школе ўсе дзеці вельмі добра малявалі. Брата Яся маці павезла паступаць у наш Парнат, але не атрымалася, і ён пайшоў у ПТВ будаўнікоў. Адночы брат убачыў, што пачаўся чарговы набор вучняў у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву, прывёз дамоў іх афішу. І маці зноў павезла ў Мінск сына. На гэты раз — мяне.

У 1973 годзе я скончыў чатыры класы вясковай школы і з 5-га па 11-ы клас вучыўся ўжо ў Парнаце.

Памятаю, як пасля ўступнага экзамену па матэматыцы я прыбег да мамы і пачаў пытацца: «У канцы задачы я правільна написаў «ответ»? Гэта «адказ»?»

Пашанцавала. Паступіў на аддзяленне скульптуры. Праз пэўны час у Парнат паступіла і мая сястра Валя.

Дарэчы, калі мы ў 1980 годзе заканчвалі школу, дамовіліся ўсе выпускныя экзамены здаваць на беларускай мове.

Чаму Парнат? Гэтую назву прыдумалі самі вучні. Напэўна, так было прасцей, чым «інтэрнат». А можа, за аснову былі ўзяты знакаміты Парнас.

Цяпер да афіцыйнай назвы дадалі яшчэ і «імя Ахрэмчыка», але гэта, што называецца, «прыцягнутае за вушы», бо ён да нашай школы не мае ніякага дачынення. Пры жаданні можна назваць адразу некалькі прозвішчаў мастакоў.

### Майстроўня: крокі сталення

Да паступлення ў тэатральна-мастацкі інстытут я таксама рыхтаваўся выключна на беларускай мове. А яшчэ раней у Вільні пазнаёміўся з Вінцуком Вячоркам. Падчас новай вучобы кантакты з ім аднавіліся напоўніцу.



Мадона з дзіцём — мама з братам Ясем

Як толькі я стаў студэнтам (зноў аддзялення скульптуры), мы (першакурснікі) пачалі шукаць моўных аднадумцаў.

Ужо падчас першай «бульбы» пачуўшы гутарку на беларускай мове, да нас падышоў Ігар Марачкін. Шчыра ўзрадаваліся — свой.

Аказалася, што сярод студэнтаў ёсць яшчэ тыя, хто размаўляе па-беларуску. Хутка ўсе перазнаёміліся. І былыя выпускнікі ўзгаданага раней Сокалава-Кубая, якія вучыліся ўжо на трэцім курсе, у сваёй майстэрні прапанавалі правесці агульную сустрэчу.

Сабраліся і дамовіліся, што нешта трэба рабіць і па крыху адраджаць беларускую мову і культуру. Вырашылі пачаць з насценгазеты. Неўзабаве сабраліся яшчэ раз, і на сустрэчу прыйшлі два хлопцы, якія былі ў пэўным сэнсе дэлегатамі філалагічнага аддзялення БДУ — Сяргей Запрудскі і ўжо знаёмы Вінцук Вячорка. Узнікла прапанова нешта рабіць разам. Нягледзячы на размовы пра адсутнасць музычных талентаў, яны запрасілі нас на народныя спеўкі. Прышлі і ўбачылі, што вядзе гэтыя імпрэзы выпускніца нашай жа школы Ларыса Сімаковіч.

Напэўна, некаторыя рэчы пачаліся на год раней, але ясна і канкрэтна «Майстроўня» заявіла пра сябе менавіта позняй восенню 1980 года, а зімою 1980–1981 года мы ўпершыню праспявалі Уладзіміру Караткевічу калядныя песні.

Добра памятаю, як разгубілася міліцыя. Яны не ведалі, што трэба рабіць, як сябе з намі паводзіць, з якога боку падступіцца. А кадэбэшнікі эмацыйна казалі, што іх «телефоны накалились докрасна». Указваючы на калядную зорку, патрабавалі: «Уберите солнышко!»

Як вядома, моладзі заўсёды ўласцівы нейкі максімалізм, таму цалкам зразумела наша жаданне распаўсюдзіць беларушчыну як мага шырэй. Памятаю, як адбываліся спрэчкі на гэты конт. Я прытрымліваўся плыні, якая лічыла, што ў гэтым напрамку трэба рухацца паступова і абмяжоўвацца крокамі накшталт калядных спеваў.

А, напрыклад, Віктар Івашкевіч заклікаў паўсюды ствараць Таварыствы беларускай школы, чыімі сябрамі (галоўнае) могуць быць толькі тыя, хто размаўляе толькі па-беларуску. Апошняя частка гэтай тэзы мне тады і падавалася непрымальнай.

Самае цікавае, што з часам мы як бы памяняліся месцамі.

У пачатку новага стагоддзя я стаў больш радыкальным, а ён, як адзін з кіраўнікоў БНФ, пачаў ставіцца да моўнай праблемы больш талерантна, бо ведаў, што ў тым жа рабочым асяродку немагчыма дабіцца нечага раптам, а трэба рабіць усё паступова.

Калі 13 чэрвеня 1984 года адбыўся пікет супраць зносу першага беларускага тэатра, улады ўзяліся за «Майстроўню», як кажуць, напоўніцу. Супраць невялікай групы пратэстнай



Скульптурны пленэр «Lehienda z piasku». І са снегу



Гэнік Лойка з жонкай Алёнай і іх першым шчасцем — Ярашам. 1995 г.



Дзеці Гэніка Лойкі Кіра і Яраш у праекце помніка «Тры ганцы/Князь і Княжна»

моладзі была скарыстана ўся моц рэпрэсіўнага апарату савецкіх часоў, і ўжо восенню таго ж года «Майстроўня» спыніла сваё існаванне.

Нягледзячы на гэта, кадэбісты нас працягвалі раскручваць кожнага паасобку. Закранула гэта і мяне. Я нават хацеў стаць штырліцам. Параіўся з Вячоркам. Ён сказаў: «Рабі, як хочаш сам, але, на маю думку, не трэба з д'яблам гуляць у гэтыя гульні, не суне палец яму ў пашчу — паглыне».

Вінцук — вельмі талерантны чалавек. Ён заўсёды агучвае максімальна дакладную асабістую ацэнку, але дае чалавеку зрабіць выбар самастойна. На мой погляд, менавіта за гэту якасць ён і кіраваў «Майстроўняй», а потым і БНФ.

Словам, нягледзячы на моцны ціск КДБ, прымітыўны шантаж, спробы запужаць, я так і не стаў іх сексотам. Больш за тое, атрымаў абяцанне вайсковай службы «на Крайняй Поўначы».

На шчасце, гэта абяцанне не спраўдзілася. Дзіва, але я трапіў служыць на сталічную вуліцу Каліноўскага, дакладней, у батальён абслугоўвання вайсковага палітычнага вучылішча. Там рабілі новы вучэбны корпус, для афармлення якога і былі патрэбныя мастакі. Адзін з нашых выпускнікоў рабіў па ім сваю дыпломную работу. Разам з ім і прызвалі яшчэ шасцёра.

Спачатку сямёра мастакоў жылі асобна ад астатніх салдат, проста на месцы працы. У казарму нас перавялі толькі пасля таго, як не адрамантавалі.

А пасля таго, як выйшаў загад тагачаснага міністра абароны Язава, усіх блатных накіраваць у месцы службы, якія знаходзяцца не менш за сто кіламетраў ад пункту прызыву, мяне накіравалі ў Гародню, гэта недалёка ад маёй вёскі.

Але вернемся да «Майстроўні». Яна скончылася, пачалася «Талака», бо прага да актыўных дзеянняў засталася. Спевы пад кіраўніцтвам Ларысы Сімаковіч працягваліся. Планы на гэты конт у яе былі даволі вялікімі. Вельмі хутка ўтварылася суполка «Дзянніца». Але адных песняў было мала. Утварылі Таварыства беларускай школы і пачалі ладзіць у Траецкім прадмесці суботнікі.

Да ідэі вельмі хутка прымазаўся камсамол. Пра нас нават напісала моладзевая «Чырвоная змена».

На адным з суботнікаў я спытаў хлопца, які ведаў літоўскую мову, як гэта называецца там. Ён адказаў — «талка». Вельмі ўзрадаваўся, бо ў нас таксама ёсць падобнае слова — «талака». Усім гэта надзвычай спадабалася, і хутка ўслед за мінскай «Талакой» пачалі ўзнікаць падобныя аб'яднанні па ўсёй Беларусі.

Неўзабаве была ўтворана Канфедэрацыя беларускіх суполак.

Так што ў «Талацэ» я паспеў пабыць яшчэ да вайсковай службы. А калі вярнуўся, убачыў, што ў краіне пачала актыўна развівацца гарбачоўская перабудова. Жыццё віравала. Узнік Беларускі народны фронт, і да ідэй нацыянальнага адраджэння падключыліся (не толькі маладыя рамантыкі) шмат знаных, знакавых людзей.

Як і многім, мне падалося, што ўсё тут будзе ў парадку,



Траецкае прадмесце. Гуканне вясны. Злева направа: стаяць Валя, Ядзя, сядзяць Стасік, Гэнік. Між імі птушка — сімвал вясны. 1985 ці 1986 год

таму вырашаў крыху адысці ўбок.

### Пясок памяці

Сярод жыццёвых арыенціраў грамадскае саступіла месца асабістаму. Перад вайсковай службай мяне размеркавалі ў Берасце, але папрацаваць там не паспеў. Пасля арміі хацеў паехаць у Гародню, аднак з дапамогай аднаго з сяброў прапісаўся ў сталіцы і пачаў працаваць тут. Дакладней, у музеі народнага дойлідства і побыту, што месціцца ў вёсцы Азярцо, побач з Мінскам. Праз хуткі час працаваў у такім жа музеі-запаведніку ў Заслаўі. Потым на тры гады я пайшоў у тое, што мы называлі «азгурантурай», то бок стаў працаваць пад кіраўніцтвам Заіра Азгура ў Акадэмічных творчых майстэрнях.

У гэты ж перыяд (1983 год) я ажаніўся. Жонку завуць Алена Каравай. Яна мая аднакласніца па Парнаце, мастацкаму інстытуту і побач аднадумца.

Пачаў працаваць настаўнікам у родным Парнаце. Спачатку па сумяшчальніцтву з «азгурантурай», а потым на поўную стаўку. Прапрацаваў там даволі доўга. Спачатку завучам быў Валер Піменавіч Свістуноў. Пад яго «капалі», і хутка замянілі чалавекам, які нават маладзейшы за мяне, але «палітыку разумее, як след».

Лукашэнка пачаў закручваць гайкі, а рэжым паўсюды, стаў як бы крышталізавацца. Сістэма падбірала людзей, якія будуць верна ёй служыць. Іншыя з яе пакрыху выцясняліся. У кожным кіруючым крэсле сёння сядзіць свой маленькі дыктатар, які не прымае іншых думак. А кіруе ўсімі імі самы галоўны дыктатар.

Пакуль Багданаў яшчэ не быў завучам, на praглядах любіў выбраць для сябе нейкую ахвяру і разнесці у пух і прах. Я не вытрымаў і сышоў.

Адбылося гэта так.

У 1999 годзе ў мяне была вельмі цікавая практыка — скульптура з пяску. Сваіх вучняў я завёз у Заслаўе, і там на кар'еры мы выразалі скульптуры з пяску. Гэтую новую плынь, на мой погляд, трэба было падтрымаць, але Багданаў паставіўся варожа і на праглядзе ўчыніў такі разнос, што дырэктарка была вымушана стаць на яго бок.

Я вельмі раззлаваўся і ў 2000 годзе (тысячагоддзе са дня смерці Рагнеды) вырашыў правесці яшчэ адзін аналагічны пленэр. Вучняў пачаў падбіраць яшчэ зімой, а галоўным крытэрам адбору вызначыў валоданне беларускай мовай.

Так ім і сказаў: «Летам плануецца акцыя. Вельмі цікавая. Таму я ўжо зараз буду прыслухоўвацца да таго, хто размаўляе па-беларуску, таго і вазьму».

Бліжэй да лета расказаў і тэму — зробім Рагнеду, якая будзе сорак метраў даўжынёй. Маўляў, можаце прыдумляць эскізы. Дзеці крыху разгубіліся, таму ўсё прыйшлося тлумачыць ім, як кажуць, на пальцах.

Не зусім яны зразумелі сутнасць маёй задумы і пасля прыезду на пясочны на кар'ер. І не толькі яны. Фатограф, які павінен быў здымаць усе этапы нашай работы, таксама нічога не разумеў.

Канешне, мне было лягчэй. У першую чаргу таму, што я ўжо ведаў тую мясцовасць і добра бачыў, што і як трэба рабіць. Убілі калочкі для арыенціраў, нацягнулі паміж імі адпаведныя стужкі, пачалі капаць. Капалі трое сутак. Жылі ў намётах. Дзецям гэта было вельмі цікава. З часам пясочная скульптура пачала вырысоўвацца.

У той жа час узнікла ідэя зрабіць у Магілёве «магілу льва», бо па легендзе гэты горад на ёй і паўстаў. Больш за тое, пачалі марыць пра тое, каб зладзіць цэлую серыю пленэраў, назваць яе «Легенды з пяску», звязаць іх з беларускай гісторыяй і беларускімі паданнямі. Выключна!

Гэты пленэр цягнуўся дзесяць гадоў, і знойдзеная тады канцэпцыя з кожным годам станавілася ўсё больш яснай і бескампраміснай — беларушчына.

Неаднаразова даводзілася чуць, што мы не павінны «біць у лоб», што прасоўваць у грамадства ўсё беларускае трэба паступова. Як мне казалі, «прыгажосць пясочных скульптураў і прывядзе дзяцей да беларускай мовы». Вельмі спрэчны тэзіс. А чаму не да оперы, напрыклад?

На мой прынцыповы погляд, да вырашэння гэтага пытання трэба падыходзіць надзвычай прынцыпова і рашуча.

Дзесяць год на пленэрах я пагаджаўся на нейкія моўныя кампрамісы. І што? Прывяла наша прыгожая скульптурная творчасць да росту цікавасці да беларускай мовы? Не. Тут няма аніякай залежнасці.

З 2001 года я не магу назбіраць на пленэр «Шлях з варагаў у грэкі» 30 удзельнікаў з беларускага боку, бо ён плануецца, як нацыяналістычны, і аніводнага слова там не прагучыць на рускай мове.

### Бел-чырвона-белая будучыня

З Парнату я звальняўся, як кажуць, «па асабістым жаданні». Шчыра кажучы, адважыцца на такі крок было складана. 14 гадоў педагагічнага стажу якняк. Зразумела, што некаторыя творцы працуюць на вольных хлябах, але мне гэта падавалася не вельмі камфортным.

На шчасце, часу для сумневаў было няшмат. Амаль адразу мяне запрасілі ў 185-ю школу, якая мае «мастацкі ўхіл». Працаваць давялося ўсяго некалькі гадоў. На гэты раз мяне звольнілі «за палітыку».

Калі ўдзел у выбарчай кампаніі Уладзіміра Мілінкевіча, яны яшчэ сцярпелі і абмежаваліся рэакцыяй на маю бел-чырвона-белую стужку (дырэктарка папрасіла яе зняць, бо тая «оскорбляет русскоязычных»), то тут не вытрымалі.

Справа ў тым, што на адным з заняткаў я заклікаў вучняў прыйсці на акцыю па святкаванні Дня Волі і раздаў ім адпаведныя ўлёткі. Мабыць, нехта ёй пахваліўся...

Мяне звольнілі за два месяцы да скасчэння вучэбнага года. Сыходзячы, я «грымнуў дзвярмі», гэта значыць, выказаўся ў прэсе. Некаторыя калегі па той рабоце казалі, што «так нельга, такім шляхам ісці не трэба».

Я таксама баяўся. Страх мае такую ўласцівасць маляваць вельмі рэалістычную будучыню. Прадбачыш усе негатыўныя варыянты. А вось магчымых пазітыўных акалічнасцей нават не ўяўляў.

А яны былі. Самае цікавае, што восенню таго ж года Лукашэнка прыказаў скасаваць «ухілы», і ўсіх памяркоўных мастакоў без шуму скарацілі. Выйшла так, што я змог выказаць нейкі пратэст, а ад іх пазбавіліся ціхай сапай...

Праз некаторы час мяне прынялі на работу ў мастацкую вучэльню імя Глебава. Там якраз ішоў рамонт, магчыма, менавіта таму дырэктар і прагледзеў, каго прымае на працу. Год я правучыў дзяцей без якіх-небудзь дысцыплінарных заўваг, аднак гэта не перашкодзіла зноў звольніць. Напэўна, начальства зноў раздражняла бел-чырвона-белая стужка на галаве.

Дарэчы, калі адбылося маё чарговае звальненне, я напісаў на гэты конт ліст міністру культуры, дзе сярод прычын звальнення ўказаў патрабаванне да банку выдаць картку на беларускай мове, да настаўніцы беларускай мовы — размаўляць са мной па-беларуску, а то ёй за межамі ўроку «проще разговаривать по-руски», да дырэктара — патрабаванне перавесці навучанне на беларускую мову.

Потым я крыху вёў мастацкія гурткі, пару год працаваў у Белрэстаўрацыі, дзе, падчас афармлення новай прэзідэнцкай рэзідэнцыі, заробкі былі вельмі добрыя, а зараз — вольны мастак.

Мабыць, асноўнай працай апошняга часу стаў выраб мемарыяльнай дошкі для дому ў Празе, дзе жыла Ларыса Геніюш. На жаль, яна не ўстаноўлена па наш дзень. Не ўмею я нешта прабіваць...

І ўвогуле. Зараз я лічу сябе больш не скульптарам, а беларускім нацыяналістам.

Нават адсядзеў пяць сутак за пікет пратэсту, які зладзіў, каля «беларускамоўнай» гімназіі, дзе вучыцца мой сын. У дзяржаве знікае беларускамоўная адукацыя. Працэс незаўважны, ціхі. А я не захацеў, каб усё было ціха.

У мяне з Аленай трое дзяцей — Яраш (1994), Кіра (1999) і Любарт (2001). Усе добра вучацца, выдатнікі. Размаўляем паміж сабой толькі на беларускай мове. Прынцыпова!



Скульптурны пленэр «Lehienda z piasku». Рагнеда

# Біблія Залатога веку

Аляксей ЧУБАТ

**Прэм'ера спектакля «Біблія князя Радзівіла» адбылася ў Маладзёжным тэатры эстрады. Мікалай Радзівіл Чорны нібыта сышоў з білбордаў, з якіх цягам мінулага года ён пазіраў на беларусаў.**



Фота vk.com/radzivil500

Нярэдка людзі зайздросцяць тым, хто пры ўладзе, — бачаць раскошу іх жыцця, магчымасці. За кадрам застаецца ўнутраны свет кіраўнікоў і, канешне ж, душэўныя пакуты, якія здараюцца пры прыняцці лёсавызначальных рашэнняў. Не мог знайсці супакою ў сваёй душы і адзін з самых вядомых дзеячаў ВКЛ XVI стагоддзя — Залатога веку Беларусі — Мікалай Радзівіл Чорны. Ён быў і застаўся ў гісторыі выбітным князем, фактычным кіраўніком ВКЛ. Але выпрабаванне ўладай давалася яму з цяжкасцю, ён шукаў супакаенне, звяртаўся да Бога, але не мог у каталіцтве, веры, у якую быў ахрышчаны пры нараджэнні, убачыць свет для свайго шляху. Пакуль на пераломе Залатога стагоддзя не адкрыў для сябе Рэфармацыю «пад амафорам» лютэранства. Але праз два гады зразумеў, што ягоная вера — кальвінізм.

Шлях да веры даваўся яму з цяжкасцю: праз непрыняцце іншымі князямі, другімі высокімі асобамі ВКЛ таго часу. Найбольшым цяжарам было непаразуменне жонкі Альжбеты. (Мікалая Радзівіла і спадарожніцу яго жыцця грае сямейная пара — Павел і Ганна Харланчукі).

Менавіта гэты момант — абіранне новага шляху веры князем, непаразуменне яго саслоўным акружэннем і нязломнае стаянне ў сваім выбары — і паказаны ў спектаклі.

Рэжысура спектакля прадумана не з вешалкі, а з уваходу ў тэатр. Дзверы перад гледачамі адчыняў хлопец у адзенні Залатога веку. У фае, перад глядацкай залай, можна было, акрамя праграмкі, набыць розныя сувеніры, звязаныя са спектаклем. Гэта і кубкі, і магніцікі, і нават шакалад у старадаўняй абгортцы з выявай Радзівіла.




Спектакль складаецца з шаснаццаці кароткіх сцэн, ёсць і харэаграфічныя эпізоды. Але калі казаць не пра форму, а ўзяць пад увагу змест — узнікае жаданне апладзіраваць аўтару сцэнару, Андрусю Унучаку. І тым асобам, хто захацеў узняць гэтую тэму. Бо ў наш час амаль паўсюдна ідуць гульні з д'ябальшчынай, і неабавязкова ўключаць тэлевізійны канал жахаў, каб убачыць барвовы колер адносін між людзьмі. Зварот да Бібліі, прычым да Бібліі XVI стагоддзя, калі нашы землі былі на піку развіцця ў Еўропе, закранае зусім іншыя, светлыя струны чалавечай сутнасці. І наша шчасце, што на працягу гісторыі, на нашых землях былі постаці, на якія можна раўняцца ва ўсе будучыя стагоддзі беларускага жыцця. І адна з іх, канешне ж, постаць Мікалая Радзівіла Чорнага.

Аднак у спектаклі Радзівіл паказаны даволі экзальтавана. Ягоныя паўторы: «Я веру!», «Я паверыў!» добра падгучвалі драматычнасць падзей, але ў той жа час было адчуванне, што Мікалай Радзівіл ледзь трымаецца на тонкай мяжы паміж свецкім жыццём і манаствам. Што больш пасуе вернік, калі той убачыць Божы знак.

Увогуле, паўторы некаторых выразаў («мой брат памёр», «ён пакінуў мне Біблію») выглядаюць залішнімі. Дастаткова, калі гэта не спрыяе драматургічнаму эфекту, адзін раз сказаць, каб зразумець, што адбылося. Ёсць у размовах і не напоўненыя сэнсам паўзы, але іх няшмат. Напрошваецца выснова, што спектакль можна скараціць на 15–20 хвілін, і з гэтага ён б толькі выйграў.

Добра прадуманы дэкарацыі — перасоўныя калоны. Яны, хутчэй за ўсё, адпавядаюць часу, які адлюстраваны на сцэне: у калонах адчуваецца барочны стыль.

У зале быў аншлаг, прычым, другі дзень запар. Канешне, у кожнага свой матыў прыйсці на спектакль, але хочацца верыць, што не апошнюю ролю тут грае цікавасць да выбітнага часу нашай Радзімы — Залатога веку Беларусі, і непасрэдна да Мікалая Радзівіла Чорнага. Якога, спадзяюся, яшчэ ўбачаць гледачы і ў іншых гарадах і краінах.



## БУДЗЬМА!

БУДЗЬМА

**29 чэрвеня (панядзелак)**

на сядзібе ТБМ адбудуцца чарговыя заняткі ў гістарычнай школе

**«Гісторыя ў падзеях і малюнках на вакацыях» з Алегам Трусавым**

Зноў пачынаецца гістарычны цыкл — Беларусь у XVI–XVII стст.

Пачатак 18.30. Уваход вольны

Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 821

Падпісана да друку 19. 06.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.